ЛіМ

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ISSN 0024-4686

№ 30 (4974) 30 ліпеня 2010 г.

## У нумары:





У беларускай культуры святы паэзіі і песні ўжо даўно сталі традыцыйнымі. Кожнае лета і восень яны праводзяцца ў мясцінах, звязаных з жыццём і творчай дзейнасцю знаных беларускіх паэтаў. Не так даўно ў фальварку Ракуцёўшчына Маладзечанскага раёна, дзе ў 1911 годзе некалькі месяцаў жыў Максім Багдановіч, на пагорку каля Максімавай крынічкі, прайшло свята паэзіі і песні "Ракуцёўскае лета-2010", якое на святочнай сцэне сабрала шмат беларускіх паэтаў і музыкаў. Арганізатарамі свята выступілі Літаратурны музей Максіма Багдановіча і Маладзечанскі райвыканкам.



# Максімава свята

Як заўважыла дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяна Шэляговіч, сёння складана прасачыць, у якім годзе адбылося першае свята паэзіі і песні ў Ракуцёўшчыне. Першапачаткова творчыя сустрэчы на Ракуцёўскай зямлі спецыяльна не арганізоўваліся. Збіраліся аднадумцы, аматары творчасці Максіма Багдановіча, і ў адзін з летніх дзянькоў ехалі ў Ракуцёўшчыну, дзе каля памятных камянёў, што ўсталяваны каля вёскі ў 1977 годзе, чыталі вершы, прысвечаныя М. Багдановічу, і вершы самога Багдановіча. Аднак па тых дакументах і фотаздымках, што захоўваюцца ў музеі, можна прасачыць, што з 1983 года святы ў Ракуцёўшчыне сталі штогадовымі. У розныя гады святкаванне мела розныя фарматы, але заўсёды яно было напоўнена прыгожым вершам, цудоўным спевам. Апошнія гады Літаратурны музей М. Багдановіча ініцыіруе святы і запрашае на іх гасцей. Пастаяннымі ўдзельнікамі святкаванняў многія гады былі сваякі роду Луцкевічаў (зямля, дзе размешчаны філіял Літаратурнага музея Максіма Багдановіча "Фальварак Ракуцёўшчына", у свой час належала роднаму дзядзьку Івана і Антона Луцкевічаў Вацлаву Лычкоўскаму). Часта прыязджалі госці з Масквы, Украіны, Літвы.

Свята паэзіі і песні "Ракуцёўскае лета-2010" пачалося з імправізацыі, якая прайшла каля памятных камянёў і "Максімавага саду" — першага на беларускай зямлі пісьменніцкага парку. Тут удзельнікі святкавання ўспаміналі сваё першае наведванне Ракуцёўшчыны, дзяліліся ўражаннямі ад знаёмства з мясцінамі Максіма. Паэты Віктар Шніп і Навум Гальпяровіч, мастак, заслужаны работнік культуры Эдуард Агуновіч, загадчыца філіяла Літаратурнага музея М. Багдановіча "Беларуская хатка" Таццяна Лабада расказалі свае гісторыі знаёмства з Ракуцёўшчынай. Усе яны розныя, але творчага чалавека ў гэтыя мясціны заўсёды кліча паэзія, песня, кліча голас Максіма.

Тут жа адбылася і сустрэча з сябрамі краязнаўчага клуба "Спадчына", якія ўжо пяць год запар, каб наведаць мясціны, звязаныя з жыццём і творчасцю любімага паэта, і паўдзельнічаць у святкаванні, робяць доўгі шлях з мястэчка Дварэц Дзятлаўскага раёна Гродзенскай вобласці. Пяць год таму яны ўпершыню трапілі на свята, якое іх уразіла душэўнасцю і асаблівай цеплынёй. Кіраўнік клуба Наталля Ляўкевіч падкрэсліла, што ўзяўшы калісьці дзяцей яшчэ маленькімі на выхаванне, яна шукала выток, з якога можна было б наталіць іх душы сапраўдным патрыятызмам. Паколькі сама захаплялася паэзіяй М. Багдановіча, то і дзяцей вырашыла таксама далучыць да яго творчасці. Атрымалася гэта ўдала, бо праз вершы Максіма дзеці спазнавалі родны край, родную прыроду.

"Ракуцёўскае лета" — сапраўднае свята не толькі для гасцей, але і для мясцовых жыхароў Ракуцёўшчыны і суседніх вёсак. Ніна Мінчукова, якая пражыла ў суседняй вёсцы Краснае 40 гадоў, сама ведае шмат народных песень і часам піша вершы, заўважыла, што свята, як і халодная вада з Максімавай крыніцы, дае творчаму чалавеку натхненне і сілы для творчасці. Тут штогод збіраюцца і старыя, і моладзь, многія яго аматары ўжо пастарэлі і не ўсе маюць сілы наведаць святкаванне, але яны памятаюць і пра свята, і пра Максіма. Традыцыі не павінны забывацца. Ніна Іванаўна памятае імёны ўсіх паэтаў, што зазвычай удзельнічаюць у свяце, але ў ліку любімых называе Навума Гальпяровіча і Віктара Шніпа.

У гэтым годзе "Ракуцёўскае лета" было не такім шматлікім па колькасці гасцей і ўдзельнікаў, як звычайна. Так, 2010 год для Ракуцёўшчыны не стаў значным і асаблівым з пункта гледжання наведвання, аднак тая энергетыка, што ствараецца падчас свята, засталася нязменнай. У многім гэтаму садзейнічаў асабісты ўнёсак кожнага з выступоўцаў. Сёлета палымяна і натхнёна прамаўлялі і чыталі вершы паэты Генадзь Пашкоў, Навум Гяльпяровіч, Віктар Шніп, Анатоль Зэкаў, Таіса Трафімава, Зміцер Арцюх, Людміла Хейдарава. Гучалі песні, сярод якіх было нямала — на вершы Максіма Багдановіча ў выкананні Алесі Сівохінай і ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці з Маладзечна.

Як заўважыў падчас выступлення галоўны спецыяліст упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці Міністэрства культуры Беларусі Дзмітрый Шляхцін, "Ракуцёўскае лета" — сапраўднае свята беларускай культуры, літаратуры і мастацтва. Культуру ж нельга ўявіць без традыцый, і гэтае мерапрыемства ўжо стала паўнавартаснай традыцыяй, якую неабходна падтрымліваць і на ўсе астатнія гады.

За шмат год наведвання свят у Ракуцёўшчыне, пастаянныя яго ўдзельнікі заўважылі, што ў гэты дзень заўсёды цудоўнае надвор'е. Ні разу не было навальніцы, холаду, дажджу, а гэтым летам нават спёка адышла. І, па словах Таццяны Шэляговіч, тая незвычайная энергетыка, што ствараецца падчас святаў у мясцінах Максіма Багдановіча, нясе ўпэўненасць у тым, што справа, якой займаешся — важная, упэўненасць, што традыцыя правядзення святаў будзе працягвацца. Вельмі прыемна чуць ад жыхароў навакольных вёсак, што гэта самае любімае свята, вельмі радасна чуць ад арганізатараў з боку Маладзечанскага райвыканкама, што рыхтаваць гэтае свята — сапраўднае задавальненне. Бо гэта вялікае шчасце — быць далучаным да асобы Максіма Багдановіча.

Марына ВЕСЯЛУХА

На здымках: загадчык філіяла "Фальварак Ракуцёўшчына" Лілія Заліўская і дырэктар Літаратурнага музея Максіма Багдановіча Таццяна Шэляговіч сустракаюць гасцей; выступае выканаўца песень Алеся Сівохіна.

Фота аўтара

Калаж Віктара Калініна

## Пункцірам

• Першы міжнародны музычна-спартыўны фестываль “Беларускія карані” пройдзе 6—8 жніўня ў Палангe (Літва). Фестываль арганізаваны Беларускім цэнтрам турызму і аздараўлення ў Літве пры падтрымцы Пасольства Беларусі ў гэтай краіне. Паводле інфармацыі арганізатараў фэсту, яго галоўнай задачай з’яўляецца знаёмства літоўцаў і жыхароў краін Еўрасаюза з сучаснай беларускай культурай, наладжванне культурных сувязей паміж Літвой і Беларуссю, стварэнне станоўчага іміджу нашай краіны на міжнароднай арэне.

• У філіяле Дзяржаўнага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры Беларусі “Гасцёўня Уладзіслава Галубка” адкрылася выстаўка работ студэнтаў Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. У экспазіцыі прадстаўленыя лялькі розных тыпаў кіравання, тэатральныя касцюмы, бутафорыя, элементы дэкарацый.

• Калекцыя адзення “Льняны калейдаскоп” мастака-мадэльера Аршанскага льнокамбіната Тамары Валадзько ўдастоена аднаго з галоўных прызоў 5 Расійскага фестывалю моды “Плёс на Волзе. Льняная палітра”. Беларуская ўдзельніца заваявала галоўны прыз у намінацыі “Прамысловыя калекцыі”.

• Першы адкрыты конкурс-фестываль шыцця з лапікаў “Рэпінская палітра” пройдзе 5 жніўня ў музеі-сядзібе Ільы Рэпіна “Здраўнёва” пад Віцебскам. Беларускія і расійскія майстрыхі пэчворка прадставілі на конкурс больш як 30 адмысловых работ, якія ўжо экспануюцца.

• Больш як 50 рэпрынтных і факсімільных выданняў па гісторыі, рэлігіі, беларускай, рускай і замежнай мастацкай літаратуры пачатку XX стагоддзя прадстаўлены на выстаўцы “Вяртанне забытых кніг”. Унікальныя выданні з фондаў аддзела рэдкай кнігі Гомельскай абласной універсальнай бібліятэкі імя У. Леніна да канца лета будуць экспанавацца ў выставачнай зале вежы Палаца Румянцавых-Паскевічаў.

• Па ініцыятыве Азербайджанскага таварыства кніг (АТК) у выдавецтве “Индиго” пабачыла свет мініяцюрная кніга (38х55 мм) пра візіт 3 — 4 ліпеня Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі ў Азербайджан. Па словах старшыні АТК, заснавальніка Музея мініяцюрнай кнігі Зарыфы Салахавай, у выданні падрабязна адлюстраваны цырымонія прыёму Аляксандра Лукашэнкі, яго сустрэча са сваім азербайджанскім калегам Ільхамам Аліевым, сумесная прэс-канферэнцыя прэзідэнтаў.

• Да 600-годдзя перамогі на Грунвальдскім полі НББ падрыхтавала камплект паштовак “Грунвальдская бітва ў вывях: па матэрыялах з фондаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі”. У камплект з 16 паштовак уключаны гравюры з хронік, рэпрадукцыі напісаных у батальным жанры палотнаў, ілюстрацыі з літаратурных і гістарычных твораў.

• Выстаўка рэпрадукцый карцін Напалеона Орды адкрылася ва Уругваі. 28 унікальных мастацкіх вобразаў Беларусі XIX стагоддзя экспануюцца ў залах музея “Белы дом”. Тут жа прадстаўлены прадметы нацыянальна-прыкладнога мастацтва нашай краіны: вырабы з ільну і саломкі, кераміка. Выстаўка прадоўжыцца да верасня.

Падрыхтавалі Віктар ЗАЯЦ і Бажэна СТРОК

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Нестандартны ўрок

**Шмат цікавых ініцыятыў ажыццяўляе Гомельскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі. Тэма ж 65-годдзя Вялікай Перамогі прайшла праз прызму творчай працы з моладдзю. Гомельскія творцы падрыхтавалі аўтарскі літаратурны спектакль “Памяць сэрца”.**

Асноўная мэта гэтага праекта — данесці да моладзі праз беды і пакуты, якія прынесла народу вайна, садзейнічаць выхаванню патрыятычных, грамадзянскіх пачуццяў.

Працягласць кампазіцыі раўняецца працягласці ўрока — 45 хвілін. Нестандартны ўрок-спектакль, які ладзіўся ў дзяржаўных установах адукацыі, а таксама ў Славянскай бібліятэцы і ў іншых установах Гомеля, выконваўся на дзвюх мовах — беларускай і рускай. Яе аўтары — педагогі, паэты Ніна Шклярава, Алег Ананнеў, Святаслаў Крупенька.

…У цэнтры сюжэта — Маці, якая перабірае пажоўклыя ад часу сямейныя фотаздымкі і зацёртыя франтавыя лісты. Гарыць свечка на стале… І салдацкі шынель на плячах… Гучаць пранізлівыя вершы…

У аснове літаратурна-музычнага спектакля — вершы і асабістыя ўражанні паэтаў ад сустрэч з ветэранамі Вялікай Айчыннай, вязнямі канцлагераў. Асэнсаванне вайны — задача складаная і для творчасці, і для гутаркі педагога з вучнямі. І усё ж менавіта не апавяданне, а дыялог пра тое, што такое вайна, быў задуманы аўтарамі і выканаўцамі.

Для інсцэніроўкі была распрацавана хвалюючая мультымедыйная прэзентацыя. У ёй выкарыстоўваліся дакументальныя фотаздымкі, кадры з фільмаў, створаных на кінастудыі “Беларусьфільм” — “Альпійская балада” рэжысёра Б. Сцяпанава, “Ідзі і глядзі” Э. Клімава, фрагменты карцін “Лічбы на сэрцы” былога вязня нямецкіх канцлагераў, цяпер народнага мастака Беларусі Міхаіла Савіцкага, фота мемарыяла дзецям-ахвярам вайны “Чырвоны Бераг”…

Так, для шматлікіх цяперашніх падлеткаў Вялікая Айчынная вайна — гэта далёкае мінулае. Але тое, як паэты змаглі ў яркай вобразнай форме перадаць, што давялося перажыць беларускаму народу ва ўмовах акупацыйнага рэжыму, прымусіла моладзь літаральна ва ўсіх аўдыторыях задумацца, зразумець, якую бяду перажыў наш народ.

Дарэчы, у цікавым творчым праекце прынялі ўдзел і вучні — як выканаўцы вершаў гомельскіх паэтаў. Гэта было яшчэ адным складнікам задумы.

Нікога не пакінула раўнадушным і звернутае да ўсіх прысутных пытанне: што мы больш за ўсё любім, шануем у жыцці? Гучалі адказы: “Радзіму, маму, мірнае неба, сонца, каханне, сяброўства, вандраванні…” “Вось гэта ўсё, — абагульнілі паэты, — і ёсць складнікі нашага жыццёвага шчасця, якога нас імкнуўся пазбавіць фашызм…”

Уладзімір ГАЎРЫЛОВІЧ, старшыня Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі

Звесткі пра дзейнасць Саюза пісьменнікаў Беларусі можна знайсці на інтэрнэт-сайце СПБ: www.oo-spb.by

## Стасункі

**Пра аўстралійскую пісьменніцу Алену Говар (нарадзілася ў Мінску ў 1957 годзе, закончыла Мінскі інстытут культуры) нядаўна расказвалася на старонках часопіса “Нёман”. Інтэрв’ю, дадзенае літаратурна-мастацкаму выданню, было зусім не выпадковым. Са сваёй Канберы, дзе жыве вось ужо два дзесяцігоддзі, наша зямлячка згадвала не толькі вучобу ў Мінску, але і Стаўбцоўскі край, вядомы ёй з дзяцінства, дзякуючы бабулі — сталінскаму вязню, жонцы рускага пісьменніка Арцёма Вясёлага, Ветку — радзіму бацькі, Берасцейшчыну.**



# Далёкая і блізкая Канбера

Бацька ж Алены — мінскі, а пасля ўжо маскоўскі журналіст Віктар Говар. У свой час працаваў у газеце “Літаратура і мастацтва”, засведчыў сябе настойлівым даследчыкам народных рамёстваў Беларусі. Віктар — аўтар раманаў “Время ревущих быков” і “Круг”, а таксама кнігі “Плёсткі і крышталь”. Журналіст і пісьменнік, ён пакінуў пасля сябе цікавыя дзённікі, пра публікацыю якіх ішла размова за кубкам гарбаты ў рэдакцыі “ЛіМа” ў адзін з чэрвеньскіх дзён.

Аўстралійская пісьменніца прыехала ў Мінск, каб папрацаваць у Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі. Алена Віктараўна шукае звесткі пра сваіх прашчураў, займаецца генеалогіяй свайго роду. “Магчыма, пра гэта і будзе мая новая кніга, — заўважыла госця “ЛіМа”. — Буду толькі рада, калі асобныя яе старонкі знойдуць месца ў газеце творчай інтэлігенцыі Беларусі”. Застаецца нагадаць, што Алена Говар — доктар філасофіі, аўтар кніг “Библиография Австралии (1710—1983)” (Масква, 1985), “Российские моряки и путешественники” (у сааўтарстве з А. Масавым) (Масква, 1993), “Австралия в русском зеркале: Меняющиеся представления (1788—1919)” (Мельбурн, 1997), “Мой темнокожий брат: История Ильиных, русско-абригенской семьи” (Сіднэй, 2000), “Русские анзаки в австралийской истории” (Сіднэй, 2005).

А яшчэ ў гэтую сустрэчу Алена Віктараўна прывезла для аднаго з выданняў РВУ вялікі нарыс пра беларусаў, якія адкрылі для сябе Аўстралію на пачатку дваццатага стагоддзя, удзельнічалі ў Першай сусветнай вайне (гэта менавіта іх і называюць “рускімі анзакамі”, хаця сярод іх — нямала ўраджэнцаў розных рэгіёнаў Беларусі. Як прыклад — Аляксандр Майко з вёскі Зацітава Слабада Ігуменскага павета). Будзем спадзявацца і на публікацыю ў Беларусі дзённікаў колішняга лімаўца Віктара Говара, пахаванага, між іншым, у Мінску на Усходніх могілках.

Кастусь ЛАДУЦЬКА

На здымку: Алена Говар з рэдактарам аддзела прозы часопіса “Нёман” Алегам Жданам.

Фота Кастуся Дробава

## Фестывалі

# Смяяліся да слёз

Ніхто зараз не скажа, калі жыхары самай аддаленай ад райцэнтра вёскі Спорава Бярозаўскага раёна набылі славу гумарыстаў. Смяяліся яны не з каго-небудзь, а з саміх сябе. Пра тое, як сучка возера спаліла, як трэба карміць парася, каб доўгім расло, і пра многае-многае іншае. І ўсё на спораўскай мове.

Каларытную мясцовую гаворку, яскравы гумар заўважылі. Слава пра Спорава разнеслася па рэспубліцы, яе сталі называць “беларускім Габрава”, “другімі Аўцюкамі”. І вось чатырнаццаць год таму з лёгкай рукі пісьменніка Уладзіміра Ліпскага пры падтрымцы Брэсцкага абласнога грамадска-культурнага цэнтра быў арганізаваны першы абласны фестываль народнага гумару “Спораўскія жарты”. Праз 5 гадоў — другі фэст, у 2006-м — трэці.

Чацвёрты фестываль прайшоў сёлета. Каб трапіць на яго, спачатку трэба было прайсці імправізаваную мытню — расказаць анекдот або адкупіцца грашыма. Тым часам у цэнтры вёскі, куды з’ехаліся творчыя калектывы Брэстчыны, Валожынскага і Любанскага раёнаў Мінскай вобласці, з Украіны і Польшчы, як снег на галаву, усіх чакала паведамленне-нечаканка: у скульптурнай кампазіцыі спораўца і спораўкі… нарадзілася дачка. Імя далі ёй Паўлінка, Паўлінка-гумарынка.

Па дарозе да канцэртнай пляцоўкі ля возера спораўцы некалькі разоў пераходзілі дарогу з “пелапоем”, запрашалі ў двор паглядзець тое, што зрабілі сваімі рукамі. Пляцоўка ля возера атрымалася вясёлая. Былі тут розныя выставы, “Спораўскае казіно”, “ВДНГ Спораўскага краю”, карта зямлі “Споравец ідзе па свеце”…

Гэты праставаты народны эпас надае больш пазітыўных эмоцый, чым тое, што можна пабачыць па тэлебачанні. Гэты гумар напісаны самім жыццём, якое больш складанае, чым прыдуманыя сюжэты. Таму і смяяліся ў Споравe два дні ад душы, да слёз. Галоўны прыз фестывалю атрымалі гаспадары, бярозаўскія артысты. Другі паехаў у Жабінку, а трэці — у Драгічын.

Іван ПАТАПЧУК



## Вернісажы

# Загадкавы італьянец

**Шматлікія госці, якія прыязджаюць з-за мяжы, гавораць пра тое, што ў Беларусі іх у першую чаргу дзівіць вялікая колькасць прыгожых дзяўчат. Не застаўся абыякавым да іх прыгажосці італьянскі мастак Эмануэле Вентані. Гэта адчулі ўсе, хто наведаў выстаўку яго работ “Беларускі, або Мігаценне вечнасці”, арганізаваную ў Віцебскім мастацкім музеі ў рамках XIX Міжнароднага фестывалю мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску”.**

У дзвюх залах дэманстраваліся карціны, на якіх намаляваны беларускія прыгажуні — грацыёзныя, вялікавокія, загадкавыя. Эмануэле Вентані спрабуе спасцігнуць гэтую загадкавасць у поглядзе, усмешцы. Эфект узмацняецца незвычайнай манерай выканання — мастак піша свае работы алеем не на палатне, а на драўлянай паверхні. На дрэва наносіцца тоўстым пластом цёмная фарба і затым з дапамогай наждачнай паперы паліруецца для атрымання патрэбнага адцення. У выніку манахромны пераход ад больш цёмнага тону да светлага нагадвае легендарны святлацень эпохі Рэнесансу.

А пачалася гісторыя супрацоўніцтва Эмануэле Вентані з Беларуссю ў чэрвені 2008 года, калі яго запрасілі прыняць удзел у Першым міжнародным біенале сучаснага жывапісу ў Мінску, калі ён заняў першае месца сярод усіх мастакоў з пятнаццаці краін свету. Тады ён і прадставіў свае працы на драўніне. Мастак, які пачынаў маляваць алеем на палатне, у выніку творчага пошуку і эксперыментаў адмовіўся ад пэндзля, дасягнуў прызнання сваёй творчасці яшчэ да мінскага біенале. Ужо з першай персанальнай выстаўкі ў Мантоне (правінцыя Перуджы) у 1981 годзе творы Вентане карыстаюцца вялізным поспехам.

Яго працы прадстаўлены не толькі ў Італіі, але і за мяжой, выстаўляюцца ў вядомых мастацкіх галерэях. Зачаравалі яны і Беларусь, дзе мастаку прапануюцца лепшыя выставачныя залы. З удзелам Алёны Адамчык, вядомага стваральніка цэлай серыі жаночых фотапартрэтаў, і нарадзіўся праект, які аб’ядноўвае Беларусь і Італію. Цэнтральнай яго тэмай і стала першародная прыгажосць беларускіх дзяўчат, якія зачаравалі Вентані.

Таццяна КУВАРЫНА

На здымку: адна з работ Эмануэле Вентані.

Фота Андрэя Спрынчана

## Літ-абсягі

# Свята ў паэтавай хаце

На “Лімаўскім фальварку” — чарговае наваселле. А паколькі згаданы “фальварак”, як вядома, не звычайны, а літаратурны, то, гэтым разам уваходзіны на ім справіў вядомы паэт, лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра Хведар Гурыновіч. Менавіта ягоная кніга “Застаецца вера” папоўніла добра вядомую аматарам нацыянальнага прыгожага пісьменства бібліятэчку “Лімаўскі фальварак”, якую Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва” выпускае з 2007 года. Томік выбранага Хв. Гурыновіча выйшаў з прадмовай Алеся Марціновіча “Калі не верыць, то навошта жыць”.

Хведар Гурыновіч звязаў свой жыццёвы і творчы лёс з роднай яму салігорскай зямлёй. Нарадзіўся ў вёсцы Крывічы, назва якой сама па сабе сведчыць, што ў тых мясцінах людзі жылі здаўна. Працуе журналістам у Салігорску. І піша вершы. Не можа не пісаць, бо паэт ён — па прызванні, а таму паэзія, якую нездарма і справядліва называюць “госцяй нябеснай”, пастаянна знаходзіцца поруч з ім. І хоць Хв. Гурыновічу не чужая і проза, ён з’яўляецца аўтарам некалькі кніг для дзяцей, менавіта ў паэзіі “дарослай” дабіўся асаблівага поспеху, пра што, прынамсі, засведчылі ягоныя кнігі, якіх, пачынаючы з першай “Хлеб і соль”, што пабачыла свет трыццаць гадоў таму, і завяршаючыся зборнікам “Сустрэнемся ля вогнішча”, датаваны 2006 годам, толькі беларускамоўных выйшла ў яго дзесяць. Апроч таго ён піша і па-руску.

Томік жа “Застаецца вера” — гэта, як і трэба чакаць, самае-самае... Што ж, іначай і быць не магло: Хв. Гурыновіч — паэт, патрабавальны да слова. Адначасова разумее, што ў папярэдніх кніжкі магло трапіць і штосьці такое, у чым, магчыма, планка мастацкасці апушчана крыху ніжэй, чым у лепшых вершах, таму ў выбраным знайшлося месца толькі тым творам, якія сведчаць што аўтар належыць да найбольш цікавых нашых лірыкаў. У адным са сваіх вершаў “Суладдзе” ён прызнаецца, разважаючы аб сутнасці паэзіі і аб яе месцы ў жыцці: Мне хораша з табою. // Ты — ісціна жыцця, // І спасціжэнне болю, // І прага адкрыцця.

Прага адкрыцця спадарожнічае яму тады, калі ён не проста імкнецца напісаць чарговы верш, а з’яўленне гэтага верша становіцца душэўнай патрэбай, калі прагнецца споведзі перад чытачом, калі хочацца, каб тое, што па-сапраўднаму ўсхвалявала цябе і ўсцешыла, прынесла гэткае ж задавальненне і чытачам. Таму на паэтавым “фальварку” так хораша і адчуваеш сябе, бо тут пастаянна прысутнічае ўсё тое, што табе блізкае, дарагое, непаўторнае: напеўнасць і мілагучнасць роднай мовы, вабнасць вобразаў, свежасць пачуцця, кранальнасць пяшчоты, што ў аднолькавай ступені праяўляецца тады, калі гучыць прызнанне ў любові да той, без каго і свет белы нямілы, але гэтаксама выяўляецца ў вершах, у якіх паўстае хараство роднай прыроды.



Таму і не хочацца развітвацца з ім, “фальваркам” гэтым, бо ён неяк неўпрыкмет становіцца для цябе сваім. Што ж, такая ўласцівасць сапраўднай паэзіі — лёгка браць у свой палон і не выпускаць з яго. У чым, несумненна, лёгка пераканаецца кожны, хто возьме ў рукі кнігу Хведара Гурыновіча “Застаецца вера”.

Пятрусь ЛЕЎЧЫК

## Арт-лінія

# Усё наўкол — тэатр!

Учора завяршыў сезон Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы. Яго развітанне з гледачом атрымалася яскравае, урачыстае, ды трошачку тужлівае. Таму што (вельмі па-тэатральнаму!) вялікая ўрачыстасць у жыцці купалаўцаў супала з вялікімі, але зусім не святочнымі, клопатамі...



Юбілей плюс капітальны рамонт з рэканструкцыяй: гэтыя падзеі разам з тэатрам імя Янкі Купалы будзе — зразумела, па-свойму — перажываць і яго публіка. Як вядома, 90-годдзе легендарнага творчага калектыву прыпадае на восень: урачыстае адкрыццё першага сезона БДТ-1 у будынку мінскага тэатра адбылося 14 верасня 1920 г. паказам шэрага спектакляў; 17-га прайшло яшчэ некалькіх пастановак, які распачала Купалава “Паўлінка”. Аднак сёлетні верасень купалаўцы сустрэнуць па-за роднымі сценамі, а таму, каб справіць свята ўсё ж такі ў сваім доме, наладзілі пры канцы сезона ўрачыстую вечарыну пад назвай “Нясумны юбілей”. Двума днямі раней на Малой сцэне Канцэртнай залы «Мінск» паказалі прэм’еру — “Офіс” у рэжысуры Кацярыны Аверкавай паводле п’есы І. Лаўзунд «Пазваночная грыжа» (мастак Алена Ігруша). Інтрыга ў стасунках між драпежнікам-босам і пяццю службоўцамі з бліскучай тэатральнай эксцэнтрычнасцю разыгрываецца ў гэтым спектаклі з удзелам Святланы Анікей, Арцёма Бародзіча, Міхаіла Зуя, Аляксандра Малчанава, Сяргея Рудзені, Паўла Харланчука, Ганны Хітрык, іншых маладых акцёраў. Жанр вызначаны як “бесхрыбетнасць у адной дзеі”. Пастаноўка ажыццёўлена пры падтрымцы Інстытута імя Гётэ ў Мінску.

Парадавала прэм’ерай і галоўная сцэна купалаўцаў. “Тэатраманія” — назва паставленай тут нядаўна трагікамедыі ў 2-х дзеях паводле п’есы П. Шэфера “Lattice and Lovage”. Рэжысёр Кацярына Агароднікава, аўтар сцэнаграфіі і касцюмаў Вольга Мацкевіч разам з выканаўцамі роляў Зояй Белахвосцік, Георгіем Маляўскім, Уладзімірам Рагаўцовым, Аленай Сідаравай, Вольгай Няфёдавай, Ірынай Рымаравай прапануюць публіцы кінуца “на злом галавы” ў тэатральную стыхію, каб... Задумацца. Паразважаць. Пра тое, чаму так бывае, што свет вакол нас неўпрыкмет робіцца невыразным, безаблічным, нецікавым. Чаму мы апынаемся ў палоне шараговых праблем і нескончоных клопатаў. Дзеля чаго мітусімся ў калаўроце ўсё тых жа нібыта важных і неадкладных спраў... І пра тое, што можа здарыцца, калі нехта неспадзявана раскрые перад табой хваравітую марнасць тваіх амбіцый і руцінных штодзённых памкненняў, пакліча ў свет акрыленых мараў, летуценняў, фантазій — дзёрзкіх, загадкавых, яркіх, а зямля пад нагамі адначасова стане тэатральнай сцэнай...

Якімі рэаліямі ды летуценнямі, мітрэнгамі ды марамі — тэатральнымі, жыццёвымі — будзе поўніцца сцэнічны і закулісны абсяг купалаўцаў у новых варунках наступных сезонаў, мы распавядзём чытачам “ЛіМа” ў бліжэйшы час.

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымку: сцэна са спектакля “Тэатраманія”.

Фота Аляксандра Дзмітрыева

## Повязі

# Малюнкі вандруюць

Да 25 жніўня ў Брэсцкім мастацкім музеі працуе міжнародная выстаўка “Жылі-былі...”. Складаецца яна з больш як 130 экспанатаў: гэта некалькі дзесяткаў кніжных ілюстрацый, выкананых у розных тэхніках дзевятнаццацю сучаснымі мастакамі з Беларусі, Германіі ды Польшчы, а таксама літаратура для дзяцей. Але ўвагу наведвальнікаў музея прыцягваюць менавіта выявы, якія нібы выйшлі за межы кніжных старонак і пачалі напрасткі, без друкаваных тэкстаў, “размаўляць” з чытачом-гледачом...

Яшчэ з вясны ўсе гэтыя стракатыя персанажы дзіцячых кніжак, вядомыя нам з маленства ці незнаёмыя зусім, візуальна ўвасобленыя больш ці менш складаныя літаратурныя вобразы вандруюць па выставачных залах нашай краіны. Самы першы і самы поўны паказ праекта “Жылі-былі...” (з удзелам твораў больш як 30 аўтараў), які арганізавалі Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Ізраільскі культурны цэнтр пры Пасольстве Дзяржавы Ізраіль у Рэспубліцы Беларусь, Інстытут імя Гётэ ў Мінску, Польскі інстытут у Мінску, адбыўся ў нашай сталіцы. Тут, у музеі БДАМ, амаль месяц экспанаваліся работы 33-х мастакоў з Беларусі, Германіі, Ізраіля, Польшчы. Уражвала ўсё: акварэль і шаўкаграфія, пастэль і гуаш, і выразанне выяў нажом на пергаменце, малюнкі, зробленыя пяром, эксперыменты з дапамогай лічбавых тэхналогій і калажы... Падчас мінскай выстаўкі спецыялісты правялі міжнародную канферэнцыю на тэму “Сучасная дзіцячая кніжная ілюстрацыя”. Практыкі гэтай галіны і мастацтвазнаўцы пагаварылі пра складанасці працэсу афармлення кнігі (ён жа сінтэзуе ў сабе літаратурную творчасць, выяўленчае мастацтва і дызайн). І засяродзіліся на спецыфічных праблемах стварэння ілюстрацый адмыслова да выданняў, адрасаваных сучасным дзецям, зарыентаваным на ўзор эфектных мультымедыйных “карцінак”.

Пасля Мінска малюнкі-вандроўнікі пераехалі да магілёўчан; затым выстаўка экспанавалася ў Гомельскай карціннай галерэі Гаўрылы Вашчанкі, пабывала ў Баранавічах... Адзначыўшы брэсцкага вернісажа расказалі нам, што куратар выстаўкі “Жылі-былі...”, каардынатар культурных праграм Інстытута імя Гётэ ў Мінску Кацярына Кенігсберг зазначыла высокую якасць і дзівосную разнастайнасць прадстаўленых твораў, а таксама паведаміла, што ўвосень плануецца правядзенне конкурсу ілюстрацый да дзіцячых кніг сярод беларускіх школьнікаў. Пакуль жа яго патэнцыяльныя ўдзельнікі з не меншай цікавасцю — і прафесійныя мастакі, і звычайныя экскурсанты, разглядаюць творы Валерыя Славука, Рамана Сустава, Паўла Татарнікава, Веры Ягоўдзік, іншых майстроў з Беларусі, Германіі, Польшчы.

Лана ІВАНОВА




На здымку: кніжная ілюстрацыя Каралінэ Кер (Германія).

Фота Віктара Кавалёва

## З-пад пяра

Міністэрства культуры Беларусі і Сучасны мастацкі тэатр “Віртуозы сцэны” пад кіраўніцтвам Уладзіміра Ушакова плануюць ажыццявіць сумесную творчую акцыю — пастаноўку спектакля пад назвай “Мінск — любоў мая”. Галоўная інтрыга праекта — спектакль будзе пастаўлены паводле мініяцюр маладых беларускіх драматургаў маладымі беларускімі рэжысёрамі. У пачатку верасня планавецца разгорнутая прэс-канферэнцыя па гэтым праекце з удзелам прадстаўнікоў Міністэрства культуры нашай краіны, Сучаснага мастацкага тэатра, а таксама аўтараў драматургічных твораў і рэжысёраў-пастаноўшчыкаў. Мастацкая мэта, якую ставяць перад сабой аўтары і пастаноўшчыкі, — расказаць адносіны людзей унутры урбанізаванай прасторы, зразумела, у чым сутнасць беларускай ментальнасці, чым мы адрозніваемся ад іншых народаў свету. З цягам часу плануецца трансфармацыя спектакля “Мінск — любоў мая” ў гарадскі фестываль сучаснага тэатральнага мастацтва.

Ул. інф.

Паэт Станіслаў Валодзька — член Саюза пісьменнікаў Беларусі, жыхар горада Даўгаўпілс — наведаў Беларускую гімназію ў Вільнюсе. Яго гасцінна сустракалі дырэктар гэтай навучальнай установы Галіна Сівалава, настаўнікі Валянціна Кавальчук і Леакадзія Мілаш (ураджэнка Астравеччыны), а таксама старшыня Саюза беларусаў Літвы Раман Вайніцкі. На сустрэчы з вучнямі малодшых класаў паэт прачытаў свае вершы. Выхаванцы гімназіі выканалі песні на словы С. Валодзькі “Крылаты маэстра” і “Мірон” кампазітара Тацяны Піменавай, дэкламавалі яго творы. Прыемна прагучала паведамленне Г. Сівалавай, што яна мае намер выдаць “Беларускую чытанку”, куды будуць уключаны творы дзіцячых пісьменнікаў, якія жывуць за межамі Беларусі.

Т. Л.

У Мсціславе прайшоў “Рыцарскі фэст-2010”. Ужо трэці год запар старажытны горад прымаў рыцараў і іх прыгожых дам. На гэты раз удзельнікамі святкавання, прысвечанага 600-годдзю Грунвальдскай бітвы, сталі прадстаўнікі 28 клубаў ваенна-гістарычнай рэканструкцыі з розных гарадоў Беларусі. Распачаўся фэст малебнамі за воінаў-мсціслаўцаў, якія загінулі на полі бітвы. Было і святочнае тэатралізаванае шэсце, якое ўзначальваў кароль Ягайла. Наведвальнікі свята маглі назіраць традыцыйныя бугурты, спаборніцтвы лучнікаў і турніры па гістарычным фехтаванні. Пераможцам турніра па фехтаванні стаў Людамір з клуба “Ордэн Храма” (г. Мінск). У якасці прыза пераможца атрымаў Меч Мсціслава, выкаваны майстрамі адмыслова для гэтага свята. Адбылося і прысвячэнне ў рыцары Кудзікава Сяргея — кіраўніка клуба ваенна-гістарычнай рэканструкцыі, што зусім нядаўна пачаў сваю дзейнасць у Мсціславе.

Марына ВЕСЯЛУХА

Памятным стаў прайшоўшы XIX Міжнародны фестываль мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” для чашнічанкі Валянціны Атрашкевіч. Шмат год кіраўнік клуба “Майстар” Чашніцкага раённага Дома рамёстваў бярэ ўдзел у свяце, але такі поспех спадарожнічаў ёй упершыню. Як і раней, яна прывезла ў Горад майстроў саламяныя вырабы. Палатка майстрыхі вабіла непаўторным афармленнем, асновы якога склалі абразы. Менавіта яны і дапамаглі Валянціне перамагчы ў III абласным конкурсе саломапляцення “Парадзь-кветка”, прысвечаным 65-годдзю Вялікай Перамогі, які адбыўся ў Віцебску. На суд журы чашнічанка прадставіла саламяны аклад да абраза Жыровіцкай Божай Маці. У намінацыі “Развіццё традыцый у прадметах культава-абрадавага прызначэння” майстрыха перамагла.

Ірына ТОРБІНА

# Зачараваная песняй

Конкурс маладых выканаўцаў, які праходзіў у рамках XIX міжнароднага свята мастацтваў "Славянскі базар у Віцебску", ацэньвала прадстаўнічае міжнароднае журы, якое ўзначальвала Таісія Павалій, выдатная ўкраінская спявачка. У 1993 годзе яна сама ўдзельнічала ў гэтым конкурсе і стала першым уладальнікам Гран-пры (на самым першым конкурсе, у 1992-м, Гран-пры нікому не прысудзілі). І, як прызнаецца спявачка, гэта перамога цалкам змяніла яе асабістае жыццё і кар'еру: яна неўзабаве стала жонкай прадзюсера Ігара Ліхуты, які падтрымліваў яе. Поспех на "Славянскім базары" зрабіў яе прызнанай, запатрабаванай спявачкай. Пасля той перамогі ўзнагароды проста пасыпаліся: у 1994 годзе яна прызнана лепшай спявачкай Украіны і лепшым музыкантам года, у 1996-м удастоена тытула "Зорка эстрады рока" і звання заслужанай артысткі Украіны, у 1997 годзе — звання народнай артысткі Украіны...

На сустрэчу з журналістамі на "Зорную гадзіну" Таісія Павалій прыйшла з прадзюсерам Ігарам Ліхутам. Прапануем увазе чытачоў гутарку са спявачкай.

— Найперш, Таісія, пытанне вам як старшыні журы. Ці адчуваеце вы які-небудзь ціск на журы? Ці не здарыцца, як летась, калі старшыня журы Лайма Вайкуле зазначыла: "Як я скажу, так і будзе". Летась выйграў спявак Даніленка, але ўсім была відавочная перамога спевака з Малдовы.

Таісія Павалій: Для мяне вялікі гонар узначальваць журы — я пра гэта нават і не марыла. Калі буду неаб'ектыўнай, перакрэслю сваю перамогу 17 гадоў таму. Ацэньваюць канкурсантаў дасведчаныя спевакі з розных краін: якія яны выставяць адзнакі, такі і будзе вынік.

Ігар Ліхута: Нягледзячы на знешнюю мяккасць, Таісія вельмі цвёрды чалавек, як кажуць, дзе сядзеш, там і злезеш.

— Вы ў Віцебску шмат спяваеце — амаль ва ўсіх канцэртах бераце ўдзел, асабліва многа песень прагучала ў канцэрце Дня Украіны. Як беражэце голас?

Т. П.: Для голасу вельмі важны рэжым: не піць, не паліць, не есці семак, салёных арэшкаў, добры сон.

— Таісія Мікалаеўна, што б вы параілі сённяшнім удзельнікам конкурсу маладых выканаўцаў, каб яны маглі прафесійна, псіхалагічна і творча годна вытрымаць яго і, можа, у вас ёсць свая формула, як стаць зоркай?

Т. П.: Маладым канкурсантам жадаю добра выспацца перад канцэртам, бо звязкі патрабуюць беражлівых да сябе адносін. Магу сказаць тое, што і мне раілі 17 гадоў таму. Не слухаць сваіх сапернікаў — ні на рэпетыцыях, ні на выступленнях, выйсці на сцэну так, быццам гэта твой сольны канцэрт. І галоўнае — вера ў сябе, у сваю зорку.

— Які стан сённяшняга шоу-бізнесу ва Украіне? Гавораць, што ў вас расійскія артысты карыстаюцца большай папулярнасцю, чым свае?

Т. П.: Усе мы глядзім ОРТ, РТР. Ва Украіне нявыгадна здымаць свае шоу-праграмы. Нашаму тэлебачанню патрэбны вялікія сродкі ўкладваць у праекты: будаваць дэкарацыі, запрашаць артыстаў на здымкі. Танней купіць гатовую прадукцыю ў расійскага тэлебачання.

І. Л.: Не магу пагадзіцца з тым, што ўкраінскія артысты менш папулярныя ва Украіне, чым расійскія. У нас шмат таленавітых выканаўцаў, яны запатрабаваныя. Таксама здымаецца шмат праграм. Іншая справа, што забаўляльныя праекты, на жаль, за апошнія пяць гадоў зніверліраваны. Ёсць толькі адна праграма, якая доўга трымаецца і мае добры рэйтынг — "Вячэрні квартал". Робяць яе былыя ўдзельнікі КВЗ. Праграма даволі жорсткая — палітычны гумар, палітычная афарбоўка.

Украінскія артысты дастаткова паспяхова прымаюць удзел у розных конкурсах: "Еўрабачанні", "Славянскім базары ў Віцебску", "Новай хвалі".

— Як ва Украіне фінансуецца культура?

Т. П.: Прэзідэнт Віктар Януковіч абраны нядаўна. У краіне да яго прыходу наогул была праблема з напаўненнем бюджэту, і таму не было чым плаціць зарплату творчым калектывам. Цяпер урад працуе над тым, каб хоць нейкія грошы знайсці на зарплаты людзям.

— Якім вы бачыце будучыню свайго сына Дзяніса Павалія?

Т. П.: Не хацела, каб ён быў артыстам. Нядаўна скончыў Інстытут міжнародных адносін, прынёс дыплом, паказаў нам яго і сказаў: "А цяпер я пайшоў у студыю". Ён ужо запісаў свой альбом.

І. Л.: Таісія — прынцыповы чалавек, яна сказала Дзянісу, што не жадае, каб ён выкарыстоўваў яе прозвішча для прасоўвання ў шоу-бізнесе.

— Таісія Мікалаеўна, вы нарадзіліся на Кіеўшчыне, у сельскай мясцовасці. Пра што марылі ў дзяцінстве?

Т. П.: Я толькі нарадзілася ў вёсцы, а калі мне было паўгода, бацькі пераехалі ў горад Белая Царква, што ў 80 кіламетрах ад Кіева. Мне пашчасціла: там была цудоўная музычная школа, выдатныя педагогі. Ужо з шасці гадоў займалася музыкай. Калі прыязджала да бабулі у вёску, любіла адна ўцякаць у лес спяваць, уяўляць сябе артысткай. Была ўпэўненая, што буду народнай артысткай Савецкага Саюза. Я нават маці аднойчы сказала: "Мама, мы нашу старую мэблю павязём да бабулі, а сабе купім дываны, крышталь, сценку…". Вось такія дзіцячыя мары.

Вёска мяне прыцягвае і сёння. Восем гадоў таму пераехала жыць з горада ў вёску. Атрымоўваю задавальненне ад таго, што хаджу па зямлі, сяджу ў садзе, слухаю спеў птушак. Прырода мне дапамагае: расслабляе, спрыяе добраму настрою, дае сілы. Ад блізкасці да прыроды людзі становяцца дабрэйшым…

— Якія творчыя планы на бліжэйшы час?

Т. П.: На восень плануем серыю сольных канцэртаў у Краснадарскім краі: Сочы, Геленджык, у верасні — па Падмаскоўі. Потым будзе вялікі тур па Украіне. У канцы лістапада — Сібір, Далёкі Усход.

— А ў Мінск калі плануеце прыехаць?

Т. П.: Думаем, у наступным годзе. Будзе 20 гадоў незалежнасці Украіны. Плануем правесці канцэрты ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, Казахстане і Беларусі.

Гутарыла Тацццяна КУВАРЫНА
Мінск — Віцебск — Мінск



На здымку: Таісія Павалій.

Фота Андрэя Спрынчана

# Па-за межамі стылю

"Ніколі б не падумаў, што яны беларусы!" — такія рэмаркі часта з'яўляюцца першай рэакцыяй на музыку беларускага гурта "Open Space", які выконвае песні па-англійску. І не толькі мова вылучае каманду з шэрага беларускіх музычных калектываў. Вытанчанасць, стыль, еўрапейскае гучанне песень, простыя, на першы погляд, мелодыі і словы вельмі хутка нават выпадковага слухачаператвараюць у прыхільніка творчасці "Open Space". Нягледзячы на тое, што калектыў дастаткова малады, на яго рахунку ўжо два міні-альбомы і адзін поўнафарматны дыск, намінацыя "Адкрыццё года" ў "Рок-каранацыі-2008". Грамата "Лепшы поп-рок-праект года" ў "Рок-каранацыі-2009".
У склад гурта "Open Space" уваходзяць: Віталь Мацієўскі (вакал, гітара), Максім Мястоўскі (гітара, бэк-вакал), Сева Маслаў (бас-гітара, бэк-вакал), Андрэй Малашанка (барабаны).

— Чаму вы вырашылі даць гурту назву "Open Space" (Адкрытая прастора)?

Віталь: Увогуле, ёсць некалькі "легенд", што тлумачаць паходжанне назвы, але ў цэлым для нас яна азначае бязмежнасць, свабоду музыкі, сэнсу нашых песень і неабмежаванасць творчага працэсу.

— Вы выконваеце песні па-англійску. Зразумела, гэта мова, вядомая многім. Але ці няма страху аказацца "чужым сярод сваіх"?

Віталь: Ніякага страху ніколі не было, нават на самым пачатку творчай дзейнасці. Мы першапачаткова планавалі выконваць песні па-англійску, нягледзячы на тое, што гэта дастаткова складана: мова ўсё ж такі не родная. Але робім усё магчымае для таго, каб даказаць, што ў Беларусі можна выконваць якасныя песні па-англійску і быць адэкватна ацэненымі.

Максім: У прыватнасці я нічога нікому даказваць не спрабую, мне проста падабаецца пісаць і спяваць песні на англійскай мове, нават насуперак таму, што пра нас часам кажуць не вельмі прыемныя рэчы.

— Якім чынам у вас атрымліваецца спалучаць у музыцы і неабмежаванасць, свабоду, і ў той жа час інтэлігентнасць, стрыманасць?

Сева: Свабода творчасці і стылёвыя межы ў дадзеным выпадку не зусім звязаны паміж сабою. Можна нічым сябе не абмяжоўваць, але пры гэтым прытрымлівацца пэўнага стылю.

Максім: Я б тут дадаў: нават пэўных поглядаў на жыццё.

Сева: Не згодны з тым, што творчасць "Open Space" знаходзіцца ў межах аднаго стылю, але калі камусьці так здаецца, то атрымліваецца ў нас гэта не спецыяльна. Проста мы граем музыку пэўнага фармату, у прыватнасці гітарную музыку на англійскай мове.

Віталь: Мы выпусцілі ўжо тры дыскі, якія можна назваць своеасаблівымі этапамі творчага росту гурта. Калі параўнаць першы міні-альбом з апошнім поўнафарматным дыскам, можна адчуць значную розніцу і ва ўзроўні, і ў стылі, і ў манеры выканання.

— Ваш першы поўнафарматны альбом "Deal With Silence" выклікаў у публікі і крытыкаў не зусім адназначную рэакцыю. Як вы ставіцеся да крытыкі на ваш адрас?

Віталь: Для музыкаў крытыка адыгрывае больш значную ролю, чым станоўчыя водгукі, бо яна дае магчымасць засярodзіцца на памылках і не паўтараць іх у наступных песнях, альбомах. Складана зразумець, у якім кірунку рухацца, калі кажуць, што ўсё добра.

Максім: Але гэта не значыць, што мы прымаем любую крытыку. Важна, каб і крытыка была граматнай. Самі разумеем, што ёсць у нашай музыцы недахопы, якія мы бачым і імкнёмся працаваць над іх выпраўленнем.

Сева: Магчыма, першапачаткова было крыху непрыемна выслухоўваць заўвагі на свой адрас, але існуе яшчэ і праблема якасці сучаснай крытыкі. Сёння нямногія музычныя рэцэнзенты ў нашай краіне могуць пахваліцца шырынёй пункта гледжання на музыку, яны, хутчэй, абмяжоўваюцца традыцыйнымі стылёвымі межамі. Важна, каб і ў рэцэнзіях на альбомы мы бачылі штосьці новае і цікавае, каб яны выглядалі не проста як заўвагі наконт якасці запісу інструментаў або адносна нашых тэкстаў.

— Што для вас служыць крыніцай натхнення?

Віталь: У любым выпадку ў музыцы знаходзіць адлюстраванне тое, што мы перажываем у жыцці, таму і песні "Open Space" атрымліваюцца дастаткова простымі, душэўнымі, каб слухач мог адчуваць усё разам з намі.

— Якое з дасягненняў вы лічыце самым для вас значным?

Максім: Не думаю, што правільна разглядаць музыку як набор нейкіх дасягненняў. Кожная новая песня, кожны альбом — ужо з'ява.

Сева: Напэўна, самым вялікім дасягненнем з'яўляецца першы поўнафарматны альбом гурта, які выйшаў не так даўно. Важна, што ён не застаўся без увагі. Менавіта дзякуючы гэтаму дыску мы атрымалі рок-карону як "Лепшы поп-рок-праект" 2009 года.



— Для выказвання сваіх пачуццяў у музыцы вы абралі шлях: "Усё геніяльнае проста, але не ўсё простае геніяльна". У чым геніяльнасць прастасці вашай музыкі?

Максім: Гэтая фраза мае лічыцца актуальнай толькі адносна першага дыска "Open Space". Зараз стыль крыху змяніўся, і мы не думаем пра тое, каб зрабіць штосьці прoста ці, наадварот, складана. На маю думку, такое крэда павінен мець кожны музычны калектыў і кожны чалавек.

— Як вы ставіцеся да літаратуры? Любімая кніга?

Максім: Лічу злачынствам вылучаць важнасць і вартасць адной кнігі і аўтара ў параўнанні з астатнімі. Я не ў захапленні ад сучаснай літаратуры, але люблю класіку, чытаю творы праверaных часам аўтараў, якія не аддаюць даніну модзе. Гэта І. Гётэ, М. Булгакаў, Г. Бёль, Г. Маркес, Э.-М. Рэмарк. Любімых добрых аўтараў многа.

Сева: Апошняй кнігай, што прыцягнула маю ўвагу, быў зборнік кароткіх апавяданняў Харукі Муракамі. Цікава ў ім тое, што кожнае з апавяданняў прысвечана нейкай дробнай рэчы. Вось чалавек заўважае нейкі рух, з'яву, апісвае яе і пачынае разумець значнасць драбязы ў жыцці. І нашы песні ствараюцца падобным чынам: з дробных рэчаў,назіранняў нараджаюцца асацыяцыі, якія ў выніку становяцца песняй.

— Вядома, што для таго, каб трымаць увагу публікі, захоўваць цікавасць да сваёй музыкі, калектывам трэба развівацца, змяняць творчую манеру, стыль. Якім вы бачыце "Open Space" год праз пяць?

Сева: Для чытачоў газеты "Літаратура і мастацтва" адкрыем сакрэт: гурт рыхтуе да выхаду новы альбом. Цяпер мы працуем з зусім іншым, новым матэрыялам. І зноў жа нельга сказаць, што гурт выйшаў з пэўнага стылю або плануе яго кардынальную змену. Мы знаходзімся ў пастаянным пошуку, а гэта вымагае з'яўлення ў музыцы новых матываў, рысаў.

Гутарыла Марына ВЕСЯЛУХА

На здымку: гурт "Open Space": Андрэй Малашанка, Віталь Мацієўскі, Сева Маслаў, Максім Мястоўскі.

# Аб'ектам мастацтваў была душа…



Як лёгка і проста сучаснаму чалавеку падставіць душу пад камняпадны музычны роў альбо ўпусціць у сябе фальшывае слова! Ад добрай кнігі чалавек робіцца разумным, прыгожым, добрым, моцным духам, багатым душою, і няма патрэбы паўтараць, што сумніўная кніга нясе адваротнае. Выхаваць чалавека з духоўна-эстэтычным пачуццём — самая складаная задача. Ад яе вырашэння шмат у чым залежыць якасць грамадства. Сёння ніхто не замінае чалавеку "атрымліваць асалоду" ад таго, што яму падабаецца. Разумны Геракліт сцвярджаў, што людзі часам "атрымліваюць асалоду ад бруду". Ад воплескаў натоўпу поспех не робіцца большым. Разважаць пра якасць сучаснага мастацтва патрэбна і неабходна…

Здавалася б, для высвятлення значнасці літаратуры, яе істотнасці ў жыцці чалавека зроблена больш, чым дастаткова. Пералік прац па гэтай тэме заняў бы шмат старонак. Кожнае пакаленне літаратараў заўсёды абапіралася на спадчыну папярэднікаў. Галоўнай была плённасць думкі. Правераная сістэма каштоўнасцей не падзяляла мастацтва па ўзростах, каб пазбегнуць памылак і прамашак. Быў адзіны крытэрый. У 70 гадоў Вердзі стварыў сваю лепшую оперу "Фальстаф", Гётэ ў 82 гады напісаў геніяльнага "Фауста", у Бернарда Шоў у 90 гадоў атрымліваліся выдатныя артыкулы, Леў Талстой у 80 гадоў прапанаваў чытачам "Хаджы-Мурата", Фёдар Цютчаў у старасці паланіў выдатнай філасофскай лірыкай… Верагодна, мы стаім на пераломе, бо дасягнулі пэўнага гістарычнага этапа, але пакуль не бачым, не адгадваем далейшых духоўных даляглядаў.

Калі пасляваенным школьнікам я вяртаўся па зімовай дарозе са школы, гарэў жаданнем яшчэ ідучы разгарнуць чарговую бібліятэчную кнігу. Хутка прагледаў яе, і знаёмы да кожнага кусціка, да кожнай снежнай гурбы шлях (18 кіламетраў!) рабіўся больш вабным… Загадзя даведваўся, пра што кніга, настройваўся на чытанне пры газніцы. Думаю, так было з усімі, ў каго рана прачнулася захапленне кнігамі. І няма тут нічога дзіўнага: сапраўдны пісьменнік вырастае з побыту і духу народа.

Эканамічны "дабрабыт" пасляваенных гадоў, у параўнанні з сённяшнім, быў проста жабрацкім. І, тым не менш, людзі чыталі. І будзе дарэчным зазначыць, што жанчыны, якія гандлявалі сабой, сустракаліся радзей, чым сёння, бо не былі страчаныя маральныя арыенціры, якія захоўваліся і ахоўваліся, у тым ліку і мастацтвам слова. Рэдкі школьнік не ведаў Пушкіна, Лермантава, Купалу, Твардоўскага — сёння ж адбываецца сціранне некаторых маральных паняццяў. Настрой чалавечага сэрца замяняецца іншымі жыццёвымі каштоўнасцямі. І недахоп духоўнасці, прынцыповасці незаўважна робіцца звыклым. У тэлеперадачах пачалася размова пра легалізацыю ў рэспубліцы прастытуцыі, бо яна, прастытуцыя, па словах дэпутата парламента, магла б павялічыць бюджэт ажно "на пяць адсоткаў…". Захад прыведзены ў якасці прыкладу.

Але вернемся да доўгай дарогі далёкага дзяцінства. Кніжнае захапленне ў той час літаральна захлынала душу дзіцяці нават у самай занядбанай вёсцы, даючы прарасці зярняткy дабрыні. Кнігі беларускіх пісьменнікаў былі на першым месцы. Маці, здаралася, перапыняла чытанне, каб я мог паспаць і рана прачнуцца. Да світанку мы гуртам выпраўляліся ў школу, і вось тут маглі распавесці адзін аднаму аб прачытаным.

Пра школьнае дзяцінства, праўда, трэба сказаць больш падрабязна. Я хадзіў у школу з армейскай скураной сумкай. Не згадаю, як яна з'явілася ў мяне, але гэтая рэч была для мяне вельмі дарагой, я ставіўся да сумкі як да прадмета асаблівага шанавання. Відавочна, яна трапіла да мяне ад кагосьці з франтавікоў. У ёй былі тры аддзяленні: у адным змяшчаліся сшыткі, у другім — падручнікі, у трэцім — бібліятэчныя кнігі. Зверху ляжаў кавалак іржанога хлеба, часам са скваркамі, часам з цукрам. Алоўкі і ручка ўтыкаліся ў гнёзды-пістолі на вонкавым баку сумкі — з зашчапкай унізе. Іншай, хаця б падобнай, ні ў каго не прыгадаю.

Колькі ж кніг і хлебных акрайцаў перабыло ў сумцы! Ужо ў наш час, падпраўляючы бацькаву хату, я спрабаваў знайсці яе на гарышчы. Марна… Натрапіў на скрыню з кнігамі. І ў ёй — раман Івана Пятровіча Шамякіна "Глыбокая плынь". Гэтая знаходка выклікала жаданне падзяліцца ўспамінамі аб ім і аб іншых пісьменніках, кнігі якіх я чытаў у дзяцінстве. Любімыя кнігі на ўсё жыццё застаюцца сябрамі. На нейкі час я забыўся пра сумку: бацькоўскі дом неадночы перабудоўваўся, перакройваўся — ці была каму справа да сумкі вандроўцы-сына?

Я вымаў са скрыні, перачытваў іранскія вершы Пімена Панчанкі, прозу Якуба Коласа, "Васіля Цёркіна" ды згадваў, як ранняй восенню ляжаў у пуні пад парэпаным бацькавым паўкажушком і з электрычным ліхтарыкам чытаў "Вайну і мір". Дзякуючы гэтым успамінам я нібыта вяртаўся ў дзяцінства, у маладосць.

Тады не паўставала пытання пра легалізацыю прастытуцыі. Даступнымі з'яўляліся газеты, часопісы. Прадукцыя бульварнага попыту цалкам адсутнічала. Чалавечая душа была сапраўдным аб'ектам мастацтваў. І грошы не прапагандаваліся як галоўная жыццёвая каштоўнасць.

Зараз у маёй сядзібе ёсць павялічаны фотаздымак, на якім — практычна ўсе беларускія класікі: Янка Брыль, Міхась Лынькоў, Янка Скрыган, Максім Танк і між гэтага вянка надзіва таленавітых людзей – Іван Пятровіч Шамякін – чалавек лёгкай рукі.

Калі я гляджу на паўвекавы здымак 1961 года, згадваю яго гісторыю. Пасля вельмі нязначнай публікацыі у газеце "Гродзенская праўда" я быў рэкамендаваны Васілём Быкавым на нараду маладых "пісьменнікаў" Беларусі. Быў май 1961 года, мерапрыемства праводзілася ў доме творчасці Каралішчавічы. На ім Іван Пятровіч прапанаваў рэкамендаваць мяне, заводскага токара, у Літаратурны інстытут імя М. Горкага. Магчымасць здалася мне малаверагоднай, таму я вярнуўся ў цэх і працягваў заканчваць пазменную школу працоўнай моладзі. Але хутка загадчык аддзела кадраў перадаў, каб я тэрмінова прыйшоў у яго кабінет для размовы з Мінскам. Каму і навошта я спатрэбіўся ў Мінску? Я з непаразуменнем узяў слухаўку і пачуў пытанне: ці даслаў я на творчы конкурс свае апавяданні? Гэта быў голас Івана Пятровіча, заклапочанага тым, што тэрмін конкурсу сыходзіць і трэба спяшацца. Да таго ж, праўленне Саюза пісьменнікаў даслала рэкамендацыйны ліст. Зразумела, апавяданні я на той момант не даслаў, бо яшчэ не атрымаў атэстат… Майстар цэха, даведаўшыся пра тэлефанаванне, дазволіў мне пакінуць станок і выправіў на пошту. Але я вырашыў, што на цягніку Гродна – Масква творы прыедуць хутчэй. Надалей усё склалася паспяхова — сярод дваццаці сямі шчасліўчыкаў на дзённым аддзяленні аказаўся і я.

Калі пасля сядзеў ля вакна аўдыторыі дома Герцэна і часам паглядаў на Цвярскі бульвар, то неадночы задумваўся: якая загадкавая сіла выштурхнула цябе з мінулага жыцця, як лодку з няўпэўненым вясляром – плыві, маўляў, не губляйся. І гэтай сілай, гэтым розумам была творчая дабрыня. Ліст-рэкамендацыя пра паход з лёгкай рукі Івана Пятровіча захоўваецца ў інстытуцкім архіве і сёння. Літаратура паўстае як род своеасаблівага братэрства, як саборнасць блізкіх духам людзей.

Дзякуючы клопату Івана Пятровіча ў Маскве вучыліся Раіса Баравікова, Мікола Федзюковіч, Яўген Крупенька, Іван Ласкоў, не злічыць слухачоў Вышэйшых літаратурных курсаў… І ў мастацкай літаратуры кожны з гэтых былых студэнтаў пакінуў свой след.

Мара аб прэміях, узнагародах, ушанаваннях — пра любую адкрытую карысць увогуле выклікала пагарду. І тут прадбачу пярэчанні: а як жа Быкаў, Шамякін, Броўка, Лынькоў, Купала, Колас… Не творца шукаў узнагароды, а яны знаходзілі яго — дзякуючы тытанічнай працы пісьменніка, яго няпростаму лёсу. Дзякуючы яго вялікаму таленту, у рэшце рэшт. У свеце ёсць тое, з чым не здараецца дэфолтаў і інфляцый, тое, без чаго душа чалавека распадзецца, звяне. Запавет Пушкіна аб прабуджэнні "добрых пачуццяў" жыве нязменна…

Так склалася, што ў далейшыя гады пасля вучобы лёс неадночы зводзіў мяне з Іванам Пятровічам. Пасля аспірантуры я працаваў восем гадоў (1972 – 1980 гг.) у "Раман-газеце" — самым масавым выданні мастацкай прозы. Калі пісьменнік часам прыязджаў у сталіцу і спыняўся ў гасцініцы "Москва", знаходзіў час для сустрэчы.

Да таго ж я часта марыў наведаць з Іванам Пятровічам памежжа Расіі і Беларусі, маю радзіму, — але кожны раз штосьці замінала. Калі Марыя Філатаўна Шамякіна прыехала аднойчы ў Маскву і падаравала мне нізку белых грыбоў, дух паўднёвых беларускіх лясоў доўгі час лунаў у маёй кватэры…

Мы з Шамякіным шмат размаўлялі пра літаратуру. Аднойчы пры сустрэчы пісьменнік спытаўся, ці чытаў я меркаванне Івана Буніна пра беларусаў. Я спрабаваў прыгадаць. Іван Пятровіч дапытліва маўчаў, але пасля патлумачыў, што Буніну здаралася трапляць на поўнач Віцебшчыны. І па памяці працытаваў: "Огромный лесной край, чрезвычайно любопытный в бытовом отношении. У крестьян этой полосы, по моему мнению, в наиболее чистом виде сохранились черты славянской расы. В них видна порода. Да и живут они хорошо, далеко не в тех ужасных некультурных условиях, как наш мужик в средней России". Іван Пятровіч пазначыў старонку: "пяцьсот трыццаць восьмую дзевятага тома збору твораў". Я баяўся, каб Шамякін не спытаўся яшчэ аб чым-небудзь, невядомым мне.

На ўсе часы прыслоўе: дом без кніг, як цела без душы. І мімволі часам задумаешся: ніхто з тваіх аднагодкаў не стаў ні кілерам, ні дылерам, ні менеджэрам, ні брокерам, але будаўніком, аграномам, вайскоўцам, маракам, інжынерам… У наш час не вучылі выйграць мільён, кватэру, "са смакам адцягнуцца", жэваць шакаладку, — галоўнай каштоўнасцю лічылася працавітасць. Да яе прызвычайвалі з дзяцінства, а кнігі гэтаму спрыялі, бо мэтай літаратуры заўсёды заставалася выхаванне народа.

Ён жа, каб прыбадзёрыць, заўважыў: надрукаванае ўпершыню і мала каму вядомае. Мне тым часам здавалася, што "Глыбокая плынь" паклала пачатак дэтэктыўнай прозе. Іван Пятровіч адмоўна пахітаў галавой: у сюжэце ёсць некаторая дэтэктыўнасць, але чалавечая "плынь" ваеннага часу была больш крутой, чым дэтэктыў. У вайне быў жах, але была і веліч: салдатам, што ішлі на фронт, разам з патронамі, гранатамі, кулямётнымі дыскамі ўручалася брашурка з тэкстам "Слова пра паход Ігараў"…

Згадваю, як абмяркоўваліся на рэдкалегіі "Раман-газеты" творы Івана Пятровіча. Не буду хаваць, ён кожны раз хваляваўся, калі тэлефанаваў і пытаўся пра вынікі галасавання. Гэта вам не жарцікі, членамі рэдкалегіі былі вядучыя пісьменнікі краіны: Ю. Бондараў, Я. Носаў, С. Бабаеўскі, У. Смірноў, крытыкі А. Аўчарэнка, М. Лабанаў — людзі прынцыповыя і патрабавальныя.

Зразумела, ладзілася і папярэдняе рэцэнзаванне. Абмеркаванне навінак прозы Івана Пятровіча заўсёды суправаджалася павышанай цікавасцю і асаблівай увагай пры поўным удзеле рэдкалегіі. І гэта зразумела, бо ўсё, што ён пісаў — хай то "Снежныя зімы" альбо "Вазьму твой боль", — заўсёды характарызавала яго творчую манеру, выяўляла сталае імкненне спалучыць мінулае з сучаснасцю.

Натуральна, членам рэдкалегіі, якія былі пераважна аднагодкамі Івана Пятровіча, карцела даведацца, што з сучаснага Іван Пятровіч асэнсаваў. І гэтая асаблівасць спараджала агульную добразычлівасць. Калі Шамякін пытаўся па тэлефоне пра вырашэнне і ход абмеркавання, то абавязкова з дзіцячай непасрэднасцю і шчырасцю, узрадаваны і ўсхваляваны, адказваў: "Ну прама ў душу маю вы зазірнулі".

Не дзіўна, што кожная яго публікацыя сустракалася з асаблівай цікавасцю. Лісты ад чытачоў ішлі да нас, у "Раман-газету" адусюль: з Украіны, Латвіі, Малдовы, ГДР, Чэхаславакіі, Польшчы.

Сакрэт папулярнасці быў у тым, што Іван Пятровіч пісаў для шырокай аўдыторыі, а не для абраных. Жыў жыццём сваіх персанажаў, аб чым неадночы казаў, быў мудрым сумленнем герояў. Да канца 1970-х агульны наклад яго твораў складаў больш як 10 млн. экземпляраў.

У адным з лістоў Іван Пятровіч прасіў "набыць праз рэдакцыю сотню экземпляраў выдання са сваім творам, бо ў "Саюздруку" набыць немагчыма". Занятасць не заўсёды давала магчымасць сустрэцца. Іван Пятровіч адразу пачынаў хвалявацца, свет яго дабрыні патрабаваў даведацца пра падставу: "Дарагі Генадзь Барысавіч! Я вельмі шкадую, што мы не пабачыліся ў Маскве, у час нашага (г. зн. беларускага. — Г. П.) вечара. Калі М. В. Гарбачоў сказаў, што Вы былі на вечары, я быў проста засмучаны. Дарма Вы не прыйшлі на нашу сціплую сяброўскую вячэру, там былі ўсе, хто прапагандуе беларускую літаратуру. Вы робіце ў гэтым сэнсе нашмат больш за іншых. Дзякуй Вам ад імя маіх калег".

Яшчэ нядаўна маскоўскія кіёскі патрабавалі беларускіх часопісаў. Кіёск з "Нёманам" знаходзіўся ля станцыі метро "Плошча рэвалюцыі" Масквы. Традыцыю, безумоўна, падарвалі негатыўныя ў свеце працэсы. І ўсё ж яна жывая. Не паверу, каб мастацкая літаратура стала незапатрабаванай. Відавочна, узнікла неабходнасць перагляду ўсёй сістэмы кніжнага гандлю, людзі, якія займаюцца ім, самі гэта разумеюць. Патрэбна пэўная падрыхтоўка, навыкі асветніцтва, увядзенне факультэта распаўсюджвання кніг з улікам значнасці і адказнасці ўжо ў фармаванні асобы.

…З выходам пісьменніка сумуеш, чакаеш пэўнага папаўнення. Новае стагоддзе ўзяло разбег і хочацца, каб у ім не знікла "жыццядайная святыня", што завецца літаратурай. Бяруся сцвярджаць, што беларуская літаратура з яе гуманістычнай скіраванасцю, прынцыпамі маралі і гонару вытрымае выпрабаванне часам. Літаратура — найбольш тонкі пласт самавыяўлення. Яна застаецца загадкай чалавечай натуры. Ёй дадзена права вызначаць, чаму адзін чалавек, неадночы паранены, застаецца аптымістам. А іншы, жывучы ў раскошы, не адчувае радасці існавання. Кнігі жывуць таямнічым жыццём. Не кожнаму дадзена апладніць слова духам. Класікі ўмелі гэта рабіць. І таму яны вечныя. Па замове робяцца толькі рэкламныя шыльды. Калі чуеш, што японцы стварылі новага робата і чакаюць захаплення, заўсёды думаеш: душы ж у ім усё адно няма…

Душа належыць толькі чалавеку. І толькі для яго існуе літаратура. Там, дзе яна засыхае, дзе вытручваецца, там занепадаюць усе жанры і віды мастацтва. Развіццём мастацкага слова вызначаецца годнасць любой цывілізаванай дзяржавы, літаратура — паказчык яго культурнага развіцця. Па словах Льва Талстога, лепшае ў сваім жыцці пісьменнік аддае кнігам, таму яго кнігі цудоўныя, а жыццё складанае.

Шмат якія кнігі сваіх землякоў я знайшоў у вясковай хаце. А вось сумка… Мая любімая школьная армейская сумка, якая перажыла "снежныя зімы" не знайшлася. Ані ў хаце, ані на гарышчы. Як шкада, што яе няма ў абвешчаны духоўнікамі год душы!..

Генадзь ПАЦЫЕНКА

# Забытыя героі мінулай вайны

Раман Ірыны Жарнасек "Будзь воля Твая" — твор, заснаваны на рэальных падзеях. Адметна, што адлюстраванне жыцця ў час Вялікай Айчыннай вайны адбываецца праз прызму духоўнасці.

Быў час, ганарыліся шматлікімі ўзарванымі святынямі, многія з іх былі ператвораныя ў хлявы, склады, стайні. Газеты і часопісы крыкліва рапартавалі аб дзейнасці ваяўнічых бязбожнікаў, росквіце атэізму. І вось савецкая частка Беларусі без аніводнага дзейснага касцёла была аб'яднаная з заходняй, дзе працягвалася рэлігійнае жыццё. Бязбожнікі з усёй энергіяй распачалі тут атэістычную прапаганду. Падзеі рамана "Будзь воля Твая" адбываюцца ў мястэчку Росіца, якое знаходзілася на былым памежжы.

Напрыканцы лета 1939 года ў Друю прыехаў ксёндз Антоні Ляшчэвіч. Сам ён быў родам з Беларусі. Добра ведаў польскую, беларускую, рускую, нямецкую ды іншыя мовы. За плячыма меў больш за 25 гадоў святарскай службы, амаль усе іх правёў на місіі — на Далёкім Усходзе. Таму няздзіўна, што менавіта да яго звярнуліся з прапановай працаваць у Росіцкім касцёле. Ксёндз папярэдне наведаў Росіцу, пагутарыў з мясцовымі жыхарамі і зразумеў, што там надзвычай вялікае поле працы. Таму са згоды віленскага біскупа Р.Ялбжыкоўскага было вырашана паслаць на місію за Дзвіну не толькі святароў, але і сясцёр-законніц.

Людзі, якія адышлі ад веры, вярталі амаль забытыя традыцыі, спазнавалі новае, зноў звярталіся да Бога. Толькі з ім яны маглі падзяліцца сваім болем, сваёй горыччу. "Але найбольш яны баяліся раптоўнай і неспадзяванай смерці, якой баіцца кожны хрысціянін, бо тады ён можа адысці ў вечнасць не паяднаўшыся з Богам. Таму і трымаліся яны цяпер так моцна касцёла, таму кожную нядзелю стаялі чэргі да канфесіяналаў…"

Летам 1942 года актывізавалі сваю дзейнасць партызаны, якія падазрона ставіліся да місіянерскай працы святароў і законніц. Сястра Ядвіга Віршута ўспамінала, як некалькі разоў у хату, дзе яны начавалі, урываліся партызаны, дапытваліся, што яны робяць, пагражалі сурова разабрацца, калі "раптам што якое"...

З кожным днём атмасфера рабілася ўсё больш напружанай. Удзень у Росіцы з'яўляліся немцы, заходзілі на плябанію, пыталіся, ці бываюць тут партызаны. Пад вечар яны з'язджалі, уначы заяўляліся партызаны, каб дапытваць практычна пра тое ж: калі былі немцы, куды пайшлі. Місіянеры апынуліся між двух агнёў. Як паводзіцца сябе ў такой сітуацыі? Галоўныя героі рамана робяць выбар: быць вернымі сабе, свайму слову і выбранаму шляху.

У паветры пачало лётаць трывожнае: рыхтуецца карная акцыя на Росіцу! Ксяндза Антонія Ляшчэвіча загадзя папярэдзілі: не трэба вяртацца ў Росіцу, туды ўжо выехаў карны атрад. Кс. Антоні паківаў галавой, дзякаваў за клопат. Ён ужо чуў пра гэта і, больш за тое, ведаў, што карная аперацыя фашыстаў пачалася. І ўсё ж ён паехаў да свайго касцёла, бо не меў права зрабіць інакш: там Найсвяцейшы Сакрамэнт, там ягоны падначалены кс. Юры, там людзі... Як ён мог пакінуць тых, каго вучыў верыць, каму даваў парады? Ён не мог іх здрадзіць. І ён вярнуўся. У самы вір страшных падзей. Яго з радасцю сустрэлі Юры і сёстры — законніцы: цяпер яны разам і ім не так страшна.

Назаўтра ўранні пад Росіцай трывожна загучаў касцельны звон, абвяшчаючы, што прыйшла бяда. Карнікі пачалі зганяць у касцёл людзей, прыводзілі з суседніх вёсак усё новыя і новыя групы — старых, жанчын, дзяцей. Плач, крык, роспач запанавалі ў касцёле. Дзеці дрыжэлі ад холаду і туліліся да матак, якія не мелі чым іх абагрэць.




Загадана было і сёстрам — эўхарысткам ісці ў касцёл. Прыйшлі туды і святары. Кс. Ляшчэвіч заняў месца пры алтары і пачаў размаўляць з людзьмі, супакойваючы іх і нагадваючы, што чалавек у час небяспекі заўсёды павінны звяртацца да Бога. Тым больш, яны павінны адыходзіць у вечнасць паяднаным з Богам. А таму тут ёсць святары, гатовыя раздзяліць лёс людзей. Зараз яны будуць спавядаць, кожны можа ачысціць сваю душу, каб, калі спатрэбіцца, стаць перад Богам з чыстым сумленнем. Пакрысе людзі пачалі супакойвацца, да канфесіяналаў выстраіліся чэргі. Святары распачалі споведзь. Людзі маліліся. Але калі чарговым разам расчыніліся дзверы і карнікі ўпіхнулі новую групу людзей, зноў усчаліся крыкі і енкі. Кс. Ляшчэвіч перапыніў споведзь і пачынаў гаварыць, заахвочваючы да споведзі нядаўна прыбылых. "Ні да таго дня, ні пазней, — успамінала с. Ядвіга Віршута, — я не мела такой споведзі, як тады, у замкнёным касцёле, перад абліччам смерці. Настолькі дасканалы быў жаль за грахі, за абразу Бога сваімі нягоднымі ўчынкамі і думкамі".

Напэўна, тое ж адчуваў кожны, хто спавядаўся. Бо разумелі: у іх ёсць толькі сённяшні дзень, заўтрашняга яны ўжо могуць не ўбачыць. І што ж было важнейшым цяпер за ачышчэнне сваёй душы ад бруду?

Праз увесь дзень і ўсю ноч у касцёле гучала малітва. Святары спавядалі, хрысцілі, адпраўлялі Святую Імшу. Людзі рыхтаваліся да самага горшага. Праўда, карнікі казалі ім, што іх павязуць на працу ў Германію, што яны будуць жыць, але надзея была вельмі слабая, бо вакол Росіцы палымнелі пажары, у якіх гінулі людзі. Раніцай карнікі пачалі сартаваць людзей, нібы жывёлу. Маладзейшых і дужых — у адны групы, якія на фурманках адпраўлялі на чыгуначную станцыю ў Бігосава і далей — на працу ў Германію. Старых жа і дзяцей — асобна, на спаленне. Групы старых і дзяцей выходзілі з касцельных дзвярэй насустрач смерці са свечкамі ў руках, іх благаслаўлялі ў апошні шлях святары. Людзей везлі ў адну з хат, замыкалі ў ёй, хату аблівалі бензінам і закідвалі гранатамі...

Росіца палымнела ў агні. А ў касцёле працягвала гучаць малітва. Некалькі сведкаў успаміналі, што, як гэта ні дзіўна, панікі не было. Людзі, вядома ж, плакалі. Вядома, не ў адной маці заходзілася болем сэрца, калі яна думала, што будзе з ёй і яе дзецьмі. І ўсё ж, нягледзячы на безвыходнасць і немагчымасць паўплываць на лёс, у касцёле панавала атмасфера стрыманасці, як тады, калі ўскладаецца ахвяра Богу і ўсе прысутныя ўсведамляюць глыбінны сэнс таго, што адбываецца. Такая атмасфера, безумоўна, стваралася дзякуючы прысутнасці святароў, іхнім словам падтрымкі, ахвярнай малітвай. Напэўна, ніхто не асудзіў бы іх, калі б яны выратаваліся ад жудаснага чакання смерці. Але яны свядома абралі страшны лёс.

Па абедзе кс. Антоні прыйшоў на плябанію, дзе сёстры пяклі хлеб, развітаўся з імі. Сказаў: «Будзьце мужнымі. Маліцеся». І ўсміхнуўся ім яснай, адкрытай усмешкай. Такім і застаўся назаўсёды ў іхняй памяці.

Праз нейкі час ад касцёла ад'ехала шмат фурманак, людзей звозілі ў калгасную канюшню. На адной з гэтых фурманак паехаў і ксёндз Антоні Ляшчэвіч. Ён застаўся верны свайму шляху, сваім людзям… А ў касцёле зноў з раніцы сартавалі людзей: адных — на смерць, другіх — на працу ў Германію. Праз увесь касцёл выстраіліся дзве вялікія калоны. Тым, хто стаяў у першай калоне, вызначалася няхай сабе і пакутлівае, але ўсё ж жыццё, тым, хто стаяў у другой, было наканавана спаленне. Другую калону ўзначаліў айцец Юры Кашыра з крыжам у руках...

Так загінулі два мужныя святары. Яны маглі выжыць, маглі выратавацца. Не пажадалі, бо захацелі да канца раздзяліць лёс тых, каго вялі да Бога. Яны прынеслі сябе ў ахвяру народу, які так бескарысліва, моцна любілі. Прынеслі сябе ў ахвяру краіне, якой так не стае сапраўднае, ахвярнае любові — любові, што перамагае смерць і нясе збаўленне ў вечнасці.

Трагедый, падобных да Росіцкай, наша Бацькаўшчына зведала шмат. Але няшмат было выпадкаў, каб людзі сустракалі смерць з ачышчанаю, прасветленаю душою, паяднаныя з Богам. Заслуга святароў у тым, што ў Росіцы было менавіта так...

Ксяндзы Антоній Ляшчэвіч і Юры Кашыра — якія дазваляюць інтэрпрэтаваць гісторыю зусім па-іншаму і з'яўляюцца ўвасабленнем асаблівага тыпу людзей. Яны знаходзіліся на памежжы. З Усходу і з Захаду рухаліся бязбожныя, атэістычныя машыны — палітычныя сістэмы. А ахвярамі з'яўляліся простыя людзі. Што маглі рабіць у такіх абставінах святары? Дапамагаць людзям жыць і прасіць у Пана Бога выратавання! Кс. Ляшчэвіч — новы тып героя, які амаль не выяўлены ў беларускай літаратуры. Гэта чалавек, які не мае дачынення ні да савецкай, ні да польскай улады, асоба з маральнымі прынцыпамі, з глыбокай верай, з прачулай душой...

Адметнасць рамана "Будзь воля Твая" Ірыны Жарнасек — новае, нязвыклае асэнсаванне вайны. Падзеі інтэрпрэтуюцца зыходзячы з таго, што чалавек верыць у сілу Усявышняга. І адзінае, што трэба рабіць у час жудасных падзей, — маліцца. Маліцца за сябе і за... карнікаў. Бо, кажучы словамі ксяндза Антонія: "Трэба найперш шкадаваць тых, хто чыніць табе зло, няхай і самае жорсткае… І гэта няцяжка, калі толькі заўсёды будзеш памятаць, што потым, пасля смерці, кожнага з нас чакае справядлівы Божы суд". Дык будзем жа мужнымі. І будзь воля Твая…

Вольга САУЛЕНКА

# Кітайска-славянскія міфалагічныя паралелі

Не так даўно ў "Выдавецкім цэнтры БДУ" свет пабачыла новая кніга прафесара Таццяны Іванаўны Шамякінай — "Традыцыйны кітайскі каляндар і славянскія міфалагічныя паралелі" (на рускай мове). Чытач можа прыгадаць іншую кнігу гэтага аўтара з сугучнай назвай "Кітайскі каляндар і славянскі міфалагічны бестыярыум. Паралелі" (на беларускай мове), якая выходзіла ў 2007-м. Ці не пераклад тады гэта на рускую мову? Так, але не толькі. Новая кніга ўдасканаленая, багата ілюстраваная (выявамі жывёл-сімвалаў), дададзены новы раздзел "Татэмізм", ёсць абнаўленні ў самім тэксце.




Аналіз повязей славянскай і кітайскай культур — такі тэматыка-праблематычны акцэнт зроблены і ў назве самой кнігі, і ў прэзентацыі гэтага арыгінальнага выдання (маецца на ўвазе прадмова прафесара І.Малевіча). Аднак абсягі аналізуемага тут матэрыялу нашмат шырэйшыя: па сутнасці перад намі спроба "ўзламаць" 12 кодаў сусветнай культуры, паводле якіх і структуруецца традыцыйны кітайскі каляндар.

Пра жывёл-сімвалаў касмічнага цыкла апавядаецца ў 12-і нарысах (узгадаем: мыш, бык, тыгр, заяц (кот), цмок, змяя, конь, авечка, малпа, певень, сабака і свіння). Аднак "апавядаецца" – слова ў дадзеным выпадку не зусім стасоўнае. Кніга літаральна "пераварочвае" чытацкае светаўспрыманне. Справа ў тым, што ў кожным нарысе, параўнальна невялікім па аб'ёме, кожны сімвал, як, сапраўды, той самы код, аўтар літаральна "ўзломвае", і пры гэтым "ключы" падбіраюцца самыя разнастайныя і даволі нечаканыя: тут і звесткі з біялогіі, гісторыі, міфалогіі, фальклору, літаратуры, філасофіі, архітэктуры, мовазнаўства і нават кінематографа.

Так, ужо па першым нарысе, прысвечаным мышы, адчуваеш, што перад табой кніга, вобразна кажучы, з надзвычай высокім каэфіцыентам карыснай дзейнасці: столькі смелых гіпотэз, падмацаваных фактычнымі звесткамі з самых розных навук, пачуеш не на кожнай навуковай канферэнцыі. Матэрыял выкладаецца ў звыклай для яе чытачоў (і слухачоў) займальнай форме, пры гэтым заўсёды нечакана перакідваючы "масткі" т.зв. міжпрадметнай сувязі. Вось, да прыкладу, "самая, на першы погляд, дзіцячая прымітыўная казачка" пра курку Рабу насамрэч аказваецца не такой ужо і прымітыўнай: "яйка, што знесла кура, як мяркуюць шматлікія даследчыкі, уяўляе сабой Сонца. Мыш, што разбівае яечка, у дадзеным выпадку — спараджэнне хтона, г. зн. тартара, апраметнай, прасцей кажучы, сілы, Сонцу варожай". Што характэрна, аўтар не абмяжоўваецца адной трактоўкай: "мажліва і іншае тлумачэнне казкі пра курку Рабу: ва ўсіх народных традыцыях разбіванне яйка сімвалізуе працэс стварэння свету, у якім удзельнічаюць, як у кітайскім міфе, птушка (кура) і мыш". Ці, напрыклад, шырока вядомы эпізод са Старога Завету, калі Аўраам ахвяруе Богу свайго сына Ісаака (ахвяра, як памятаем, была заменена авечкай), трактуецца ў межах архетыпу, які "захаваны глыбока ў падсвядомасці і заснаваны на аб'ектыўным коле пераствараэнняў рэчыва, калі кожны матэрыяльны аб'ект фактычна ахвяруе сабой дзеля таго, каб рух жыцця не перарываўся: мінералы аддаюць сябе раслінам, расліны — жывёлам, жывёлы — чалавеку, а чалавек, безумоўна, — Богу" (з нарыса, прысвечанага авечцы (казе)).

Прымаць тую ці іншую версію — справа чытача; адназначна, што азнаёміцца з імі будзе цікава кожнаму. І, апроч усяго, заўсёды карысна пашырыць межы свайго светаразумення.

Кніга Таццяны Шамякінай, якая можа ўяўляцца як праца выключна навукова-папулярная, насамрэч заключае ў сабе шмат і публіцыстычнага. Да прыкладу, пераасэнсоўваючы вобраз той жа авечкі, як сімвала касмічнага цыкла, аўтар слушна адзначае: "статкам дурных бараноў" лічаць сучасны электарат (так называюць цяпер народ) буржуазных СМІ, якія сваімі фенаменальна нізкімі па якасці інфармацыйнымі матэрыяламі і "дэбілізуюць" насельніцтва. У сваёй пагардзе да простага чалавека яны неарыгінальныя: у скажоным, прымітыўным выглядзе паўтараюць думку нямецкага філосафа Ф.Ніцшэ, які большасць людзей называў дурнымі авечкамі, што паслухмяна ідуць за пастухом — звышчалавекам. На жаль, думка вар'ята (і пры гэтым геніяльнага мысляра) сур'ёзна паўплывала на сацыяльную псіхалогію ХХ — пачатку ХХІ ст.". І тут жа "масток" міжпрадметнай сувязі перакідваецца ў нашую сучасную літаратуру, дзе даследчыца знаходзіць контрідэю ніцшэанскай канцэпцыі звышчалавека: "у модным рамане сучаснага бразільскага пісьменніка Паула Коэльо "Алхімік" герой-пастух Санцьяга ў пошуках свайго жыццёвага прызначэння шмат што зразумеў, назіраючы паводзіны менавіта авечак: яны валодаюць асаблівай мудрасцю, заўсёды знаходзячы — толькі дзякуючы сваёй інтуіцыі — усё, што ім патрэбна, — ежу, начлег, супакаенне. Так і чалавек, давяраючы не розуму, а сваёй інтуіцыі, пойдзе менавіта па шляху, які прызначаны яму лёсам. Аўтар гаворыць, што авечкі навучылі героя мове, якая "зразумелая ўсім, мове, на якой гаворыць Сусвет".

На наш погляд, яшчэ адна важная асаблівасць кнігі — тое, што аўтар не толькі падае свае ўласныя канцэпцыі і знаёміць з найноўшымі трактоўкамі іншых даследчыкаў, але і задаецца "пытаннямі на засыпку", пакідаючы прастору для самастойнага мыслення. Напрыклад, чаму ў кітайскім календары месцяцца менавіта гэтыя жывёлы? "Чаму мыш, а не прыгожая вавёрка, чаму свіння, а не магутны насарог, чаму авечка, а не ганарлівы алень?.. Карацей, "Традыцыйны кітайскі каляндар…" — гэта, сапраўды, кніга-загадка для тых, хто любіць шукаць і знаходзіць.

Наталля ПАХОМЧЫК

Свайго роду “мускульнасць” прозы Сяргея Трахімёнка, а прасцей кажучы, яе вялікі дзейсны патэнцыял дае знаць аб сабе з першых жа старонак яго новага рамана “Записки “черного полковника” (РВУ “Літаратура і Мастацтва” выпусціла раман асобнай кнігай). Спружына сюжэтных ліній, сціснутая да такога стану, калі абавязкова мусіць адбыцца нешта надзіва важнае, гатова пачаць паступова раскручвацца, каб гэтым сваім рухам у аднолькавай ступені выявіць тое, што як бы хаваецца ў ёй, але разам з тым з’яўляецца свайго роду полем прыцягнення, якое проста не дазваляе адкласці кнігу ў бок.




# Светлыя справы «чорныхпалкоўнікаў»

Раман хочацца чытаць старонка за старонкай, хіба толькі ў асобных выпадках адрываючы позірк ад кнігі, калі штосьці трэба больш глыбока асэнсаваць. Для сябе самога, бо С. Трахімёнак, ставячы далёка не на апошні план займальнасць, вылучаючы прыгодніцкія элементы (часам з дэтэктыўнай напоўненасцю), не адмаўляе псіхалагічнай насычанасці аповеда разумее, што і проза прыгодніцкага жанру можа быць не проста “лёгкім чытвом”, якога сёння больш чым дастаткова.

Прынамсі, першая ж сустрэча з адным з герояў рамана С. Трахімёнка Расімам пераконвае, што ў далейшым гэты персанаж выйдзе на адзін з першых планаў. Такога меркавання вымагае сітуацыя, у якую Расім трапіў.

Даўняму выпускніку філалагічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта (было гэта яшчэ ў сярэдзіне 80-х гадоў мінулага стагоддзя), давялося і панастаўнічаць, і ў райана папрацаваць. Ён нават цэнтр народных рамёстваў узначальваў. Але пасля развалу Савецкага Саюза, як і многія, заставаўся без працы. Так працягвалася да таго часу, пакуль не знайшоў дабрадзея ў асобе былога калегі, які стварыў адну з турыстычных кампаній. Расім пачаў вазіць дзяцей заможных бацькоў на аздараўленне ў Анталію. Гэта яму настолькі спадабалася, што “взял отпуск на десять дней и улетел чартерным рейсом к Средиземному морю”. У адным з гатэляў Расім выпадкова сустрэўся са сваім даўнім знаёмцам.

Як быццам, выпадковы збег абставін. Але нечакана адбываецца тое, што гатова перайначыць лёс Расіма. Падчас абмену валюты, яго затрымліваюць. Аказваецца, прапанаваныя ім долары фальшывыя. За гэта ў Турцыі, як запэўнівае яго знаёмец, могуць пазбавіць жыцця. Адкуль жа ў Расіма ўзялася фальшывая стодоларавая купюра? Як высветлілася пасля экспертызы, і іншыя купюры, у тым ліку італьянскія ліры, — звычайныя падробкі...

Яшчэ адна завязка, што адбываецца літаральна на першых семнаццаці старонках кнігі. У Італію накіроўваецца турыстычны аўтобус. Здавалася б, рэйс як рэйс. Калі што і незвычайнае, дык хіба тое, што сцюард, у абавязкі якога ўваходзіла паіць пасажыраў на прыпынках кавай і чаем — далёка не маладзён. Як высвятляецца, прычыну варта шукаць таксама ў развале Савецкага Саюза. Віктар Сяргеевіч, так завуць гэтага сцюарда, выкладаў... навуковы камунізм. А паколькі не змог, як ягоныя калегі, што перакваліфікаваліся ў гісторыкаў і палітолагаў, “перабудавацца”, то давялося ісці на пенсію. Вырашыў паехаць да ўнукаў, якія жывуць у Італіі, і каб зэканоміць на білеце, уладкаваўся сцюардам. Па прыездзе ў аўтобус ён не вярнуўся. Вадзіцель патлумачыў гэта тым, што Віктар Сяргеевіч сустрэў сваіх унукаў. “И все в рассказе Сигитдаса было правдой, за исключением того, что Виктор Сергеевич не поехал к детям в Неаполь, поскольку у него не было там детей. Впрочем, у него вообще детей не было. Виктор Сергеевич в ту ночь перебрался в другую гостиницу и три дня безмятежно загорал и купался, а затем заказал билет на самолет до Гонолулу”.

Нарэшце, на першых старонках рамана з’яўляецца яшчэ і загадкавы “Б. Н.”, сапраўднае прозвішча якога так і не будзе названа, але пра якога С. Трахімёнак згадвае яшчэ ў прадмове. У самым пачатку яе: “Между собой мы никогда не называли его по имени-отчеству. Для нас он был либо Б. Н., либо “черный полковник”. Правда, второе прозвище использовалось редко, поскольку оно принадлежало не только ему. Просто всех нас, прибывших в восемьдесят первом году на Высшие курсы КГБ СССР, сразу поразило большое количество полковников в форме войск связи: с черными бархатными петлицами и в фуражках с черными околышами [...] Уже впоследствии мы узнали, что все спецслужбы мира легендируют своих сотрудников под форму войск связи, самого нейтрального рода войск, присутствие которого всегда оправдано во всех соединениях, частях и даже подразделениях».

Згаданымі персанажамі дзеянне ў творы, безумоўна, не абмяжоўваецца. Ды яны, калі можна так сказаць, цэментуюць яго. Адначасова з’яўляюцца і свайго роду сувязнымі паміж тым, што было ў сярэдзіне 1950-х гадоў, і тым, што адбывалася ў гады так званай “перабудовы”. Уласны вопыт і досвед С. Трахімёнка, несумненна, і далі магчымасць так шырока паказаць дзейнасць спецслужб, нават (зразумела, у межах дазволенага) раскрыць некаторыя метады іх дзейнасці.

Праўда, калі-нікалі з’яўляецца адчуванне, што страчваецца пачуццё меры. Не ў тым сэнсе, што згадваецца тое, пра што лепш прамаўчаць. Рэч у іншым: месцамі з-за таго, што зашмат увагі надаецца спецыфічным момантам, дынамізм дзеяння губляецца. Не кажучы ўжо пра тое, што мастацкасць саступае месца голай публіцыстычнасці.

Але гэта ні ў якім разе не дае падстаў сумнявацца ў галоўным: раман “Записки “черного полковника” — твор, якога не ставала нашай літаратуры. Ёсць у ім, праўда, рэчы, якія далёка не кожны ўспрыме адэкватна, як скажам, тое, што завербаваны Расім (правільней перазавербаваны, бо папярэдне яго ўзялі ў абцугі яшчэ ў Анталіі) з-за недагляду тых жа спецслужб ледзьве не загінуў. Ды, кажучы па-французску, сэ ля ві. Жыццё спецслужб – не выключэнне. Адно відавочна: без таго, што рабілі (і робяць) «черные полковники», не абысціся. Важна і тое, што С. Трахімёнак пабудаваў свой раман такім чынам, што ў ім светлыя справы дамінуюць. У рэшце рэшт, як і ў паўсядзённым жыцці.

Цікавы і такі момант: на працягу ўсяго твора паралельна дзейнічаюць два персанажы — апавядальнік і нехта Карбалевіч, у якіх тыя, хто добра знаёмы з біяграфіяй пісьменніка, могуць пазнаць яго самога. Дык вось у апошнім раздзеле “Корбалевич» (па прозвішчах персанажаў, якія ў дадзены момант дамінуюць, названы ўсе раздзелы твора) гэтыя два героі паўстаюць як адна і тая ж асоба. Я-герой, ён жа Карбалевіч, пачынаючы сваю працу ў школе КДБ, прамаўляе словы, якія некалі, упершыню сустрэўшыся з яе слухачамі, сярод якіх быў і Карбалевіч, гаварыў Б. Н.

Самі будні па сутнасці пачынаюць упісваць новыя старонкі ў гэты раман, што лішні раз сведчыць на карысць таго, наколькі ён жыццёвы.

Алесь МАРЦІНОВІЧ

# За імгненнем — імгненне

Апошнім часам, што, бадай, заўважылі ўсе, хто не толькі цікавіцца кніжнымі навінкамі, а і з задавальненнем знаёміцца з альбомамі — як тымі, якія расказваюць пра творчасць дзеячаў выяўленчага мастацтва, так і з фотаальбомамі, якіх апошнім часам з’яўляецца сапраўды шмат. Настолькі, што нават многія раёны не ўпускаюць магчымасць атрымаць такія візітоўкі. Праўда, не ўсе яны аднолькавыя па мастацкіх якасцях. Нярэдка гэта толькі ўзнаўленне краявідаў, ілюстрацыя пэўных з’яў, падзей ці жыцця пэўнага рэгіёна.

А вось фотаальбом, які нядаўна атрымаў пуцёўку ў жыццё ў выдавецтве “Беларуская энцыклапедыя імя Петруся Броўкі”, безумоўна, – з тых, якія можна назваць адным з лепшых. “Непаўторныя імгненні” — так называецца гэты фотаальбом, а з імгненняў, як вядома, і складаецца ўсё наша жыццё. Аднак імгненні могуць быць рознымі. Гэтым жа разам схоплены імгненні асаблівыя. Тыя, якія дазваляюць лепей спазнаць беларускую прыроду, яшчэ больш палюбіць яе жывёльны і раслінны свет. Дый увогуле адчуць, наколькі гэта аб’ёмнае і ёмкае паняцце — прырода.

Істотна ўжо тое, што ў гэтай гаворцы знойдзены арыгінальны падыход: кожнае імгненне — чарговы тыдзень года, а паколькі ў годзе 52 тыдні, то адпаведна ў фотаальбоме нібы схоплены 52 імгненні. Дасягаецца гэта дзякуючы вершам Казіміра Камейшы і каляровым фотаздымкам, што аб’яднаныя тэматычна, а ў некаторых выпадках і сюжэтна, складаюць адзінае цэлае. Тым самым і адбываецца паэтычнае, узнёслае падарожжа ў Храм прыроды.

Пачынаецца гэта падарожжа з верша, які з’яўляецца свайго роду запрашэннем да яго:

Здзіўленне!
Родны вобраз дагані
І іншым перадай сваё здзіўленне!
За тыднем тыдзень зноў перагарні —
І ў кожным знойдзеш дзіўныя імгненні.

Гэтыя імгненні адразу ж бяруць у палон сваім хараством — візуальным і эмацыянальна-ўнутраным. Каторы верш ні возьмеш, ён настолькі метафарычна насычаны, што і на самай справе з’яўляецца здзіўленне хараством прыроды, што ўзнаўляецца, увасабляецца ў паэтычных радках. Пішучы пра тое, пра што піша кожны паэт (дый не можа не пісаць, бо тэма прыроды — адна з самых даўніх у паэзіі), К. Камейша робіць гэта так уражвальна, што нібыта сам знаходзішся на ўлонні прыроды. 52 імгненні, схопленыя К. Камейшам, — гэта 52 паэтычныя эцюды, у якіх думкам і вобразам надзіва свабодна, лёгка. Гэта магчыма толькі ў тым разе, калі дасканала валодаеш пяром, а паэзія для цябе — прызванне. У каго яшчэ прачытаеш такое: Там студзень, як сівы млынар, // Завеі кружыць жорны (“Студзень”). Ці: Ажно па бровы замяло // Пушчанскія дубровы (“Люты”). Альбо: Сам дзень з адталаю душой // Вясну здалёк гукае. // Салодкі смокча ледзяшок // Аж вусны апякае (“Сакавік”).

На асобных вершах хочацца затрымаць увагу даўжэй, настолькі яны ўражваюць уменнем аўтара ствараць яркі паэтычны малюнак, непаўторны ў сваёй сутнасці і напоўненасці.

Так спакваля і перагорнута апошняя старонка альбома. Мною, чытачом, але адначасова і “гледачом”, бо тое, пра што расказваецца ў вершах, я (так, зразумела, зробіць і кожны, хто возьме гэты фотаальбом у рукі) “праецыраваў” і на ілюстрацыі, дзякуючы чаму, безумоўна, ступень успрымання ўзмацнялася, набывала яшчэ большую напоўненасць. Праўда, усяляк вітаючы гэты выдавецкі праект нашых “энцыклапедыстаў”, не магу ўсё ж не зрабіць адну заўвагу. Я не сумняваюся ў мастакоўскіх вартасцях прадстаўленых у фотальбоме каляровых здымкаў (спіс аўтараў фота, што прыводзіцца, унушальны), аднак упэўнены, што перш-наперш аўтарам альбома з’яўляецца К. Камейша. Гэта як у выпадку з вядомымі песнямі: ёсць такія, у якіх спрацоўвае вершаваная аснова, а ёсць і тыя, дзе на першым плане ўсё ж музыка.

Паэзія К. Камейшы, на маю думку, акурат тая “музыка”, што не проста дапаўняе аснову (у дадзеным выпадку гэта каляровыя здымкі), а дае ёй яркае, непаўторнае гучанне. Таму я не абмежаваўся б сведчаннем, як гэта зроблена ў альбоме, — “Вершы К. Камейшы”, а ўсё-ткі ягонае прозвішча пазначыў бы ўверсе — так, як гэта і робіцца традыцыйна, калі называецца аўтар кнігі.

Магчыма, мая заўвага не такая ўжо і слушная. Галоўнае, што з’явілася выданне, якое з задавальненнем чытаецца і ўспрымаецца.

Генадзь ВЯРЭНІЧ

Калонка Алы БРАДЗІХІНАЙ

# «Дабрыня мацней за тамагаўкі...»



Большасць поглядаў на адвечныя катэгорыі дабра і зла зводзіцца да дзвюх асноўных канцэпцый: скептычнай (не будзе дабра — не будзе і зла, і наадварот) і ўтапічнай (знішчыць зло магчыма, але дабро ў такім выпадку не знікне, а набудзе статус нормы). У новай аповесці У. Саламахі “Аблічча і Лік” (“Нёман”. 2010. № 3), заснаванай на выразным кантрасце згаданых паняццяў, прадстаўлена іншая мадэль. Аўтарам не сцвярджаецца ні поўная ўзаемаабумоўленасць дабра і зла, ні наіўная ўпэўненасць у абсалютнай і канчатковай перамозе светлых сіл. Тым не менш аповесць з немудрагелістай асноўнай сюжэтнай лініяй, сканцэнтраванай, на першы погляд, выключна на прыватных падзеях з жыцця нічым не прыкметнай сям’і шафёра Мікалая Ігнацьевіча С., дадае аптымізму і веры ў людзей.

Аповесць, дзеянне якой ахоплівае часавы перыяд усяго ў двое сутак, ускладнена шматлікімі ўстаўнымі элементамі — рэтраспекцыямі, успамінамі, снамі, — што, з аднаго боку, робіць сюжэт мазаічным, з другога — дазваляе аўтару паказаць вялікае кола эпізадычных вобразаў-персанажаў. А тое, што персанажны ўзровень з’яўляецца ў творы найважнейшым, вынікае ўжо з яго назвы (дзе, дарэчы, у пэўным сэнсе пазначана таксама і арыентацыя на прынцып фрагментарнасці).

Адмоўныя персанажы аповесці маюць карыкатурна-шаржавае аблічча і паказваюцца пераважна праз дзеянні і ўчынкі, без уліку псіхалагічнай матывацыі іх паводзін. Як правіла, адпаведная іх унутранай сутнасці і знешнасць. Завастрэнне самых непрывабных рыс у абліччы і ўчынках “носьбітаў зла” нярэдка нагадвае партрэты ў духу гратэскнага рэалізму. Сярод іх і колішні партработнік, а цяпер пыхлівы “нуварыш”, недалёкі Дунін; і “малпападобны”, нікчэмны шафёр старшыні калгаса Гел, які ўпіваецца сваёй сумнеўнай уладай над аднавяскоўцамі; і падкаблучнік і баязлівец, не вельмі важны “в масштабе города і даже района” начальнік, нехта Эдуард Іванавіч Т. Асабліва каларытнай атрымалася постаць графамана Іосіфа Аркадзьевіча Імпятоўскага (ён жа Юзя, ён жа Юзафін К.), аўтара “неўміручай” паэмы пра вугра (гэткага вершаванага аналага Свінтуса Грандыёзуса) і не менш запамінальных “таленавітых радкоў”: “Юзя с Эдей пиво пьют, пиво пьют и никому не дают”. Дзякуючы пэўнай эфектыўнасці сваёй бурнай “гандлёва-маркетынгавай” дзейнасці па прасоўванню ўласных “твораў” Юзя прадчуваў будучую славу, а таму загадзя “заказал гипсовую доску, на которой было написано, что в этом доме живет поэт Юзафин К., правда, держал ее в квартире – приколотил к стенке в прихожей”. Дадатковы камізм вобразу надае аб’ёмны, “вечна набіты рыбай”, неразлучны з ім партфель – частка “іміджа” Юзі. Заўважу, што адмоўныя персанажы аповесці, у адрозненне ад станоўчых, нярэдка маюць прозвішчы, хаця гэты факт не столькі спрыяе іх індывідуалізацыі, колькі ўзмацняе выкрывальна-сатырычны пафас звязаных з імі эпізодаў.

Героі, якія ўвасабляюць светлы пачатак чалавечай душы, не прагнуць змагання са злом. Тым не менш іх пакорлівасць і цярплівасць выглядаюць не вынікам сацыяльнай індыферэнтнасці, а хутчэй, паводле хрысціянскага разумення, імкненнем да памнажэння дабра. Псіхалогію “маленькага чалавека”, які, перажываючы прыніжэнне, жыве надзеяй на змены, У. Саламаха даследуе глыбока, праз сны, мроі, падзеі мінулага, прасочваючы прычыны комплексаў і страхаў, вытокі яго поглядаў на рэчы. Спрыяе гэтаму і прыём пераменнай факалізацыі, то бок успрыманне падзей вачыма некалькіх персанажаў: Мікалая, яго жонкі Веры Іванаўны і сына Грышкі.

І ўсё ж створаную пісьменнікам стракатую галерэю абліччаў, прадстаўленую ці не ўсімі традыцыйнымі літаратурнымі тыпамі (лішнія людзі, антыгероі, маргіналы, новыя людзі, індывідуалісты і інш.) аб’ядноўвае адзін – сакральны сімвал Ліку, які канкрэтызуецца ў вобразе маці, для кожнага героя сваёй.

Развязка аповесці ў многім меладраматычная. Тым не менш яе нельга назваць цалкам неpraўдападобнай. Твор заканчваецца не паражэннем зла, але перамогай дабра. Бо дабрыня сапраўды мацней за тамагаўкі.



Мар’ян ДУКСА

***

Зямлі сваёй сыны і дочкі,
злы вецер ці свінцовы град
вас вымусіў падацца ўпрочкі —
у свет чужы ад родных хат?

Ніякіх тут не меў уцехаў?
Пагнаў цябе раптоўны здзек?
Куды сышоў, куды ты з’ехаў,
зямляк наш, блізкі чалавек?

Ты меў рашучасць і адвагу
на ўсё, на ўсё махнуць рукой.
А ці набыў ты раўнавагу
і ці знайшоў ты супакой?

Твой след згубіўся ў пыльным
часе.
Твой воблік хутае імжа.
Ды, мусіць, з намі засталася
твая самотная душа.

Яна імчыцца сярод ночы —
спрабуй заснуць яе прымусь!
Яна глядзець на свет не хоча,
калі той свет — не Беларусь.

***

Гісторыя, для нас ты ўсё ж была
не вельмі дабрадушна-прывітальнай.
Зямля айчынная, нашто лягла
між молатам і накавальняй?

Зло ездзіла на нас вярхом,
яго прыстасаванняў нам хапіла.
Яно не раз жалезным абухом
ну проста так,
без дай прычыны біла

нас, вязняў боек і
чужых згрызот.
Бяда сядзела часта на парозе.
Бесперапынна захад альбо ўсход
па нашай лез скалечанай дарозе.

І кожны прагнуў сад наш
патрасці,
за куранём і за душой пабегаць.
Хоць раз ці здолеў хто нас
абысці
ці далікатна нас наўзбоч
аб’ехаць?

І дым, і плач
сплывалі наўздагон —
жывое рэха роспачы вялікай.
І быў наш край —
як зручны палігон
для страшных гульняў
і гардыні дзікай.

***

Жывыя сёння з Божай ласкі,
шмат нас сярод азёр і рэчак.
У свеце мы ўжо не падпаскі,
не паслухмяны гурт авечак.

Без крыўды і пыхлівай злосці
ідзем пад сцягам добрай веры.
Шматлікія купцы і госці
гасцінна стукаюцца ў дзверы.

Не толькі вырабы з саломкі
майструем… Свет багацце наша
купляе. Тое, што мы зломкі,
ніхто нідзе пра нас не скажа.

Зямля, як плод апекі чулай,
калосіцца багатай нівай.
Напэўна, попел дзён мінулых
змушае быць яе ўрадлівай.

Мы не заснулі на прывале,
абняўшы думкай край наш любы,
хоць мы стагоддзі штурмавалі
агонь і медныя ўсе трубы.

З вясёлым сэрцам нашы людзі.
Тужыць зусім няма прычыны…
Цяпер і потым — вечна будзеш
калыскай радасці, Айчына.

***

Падчас нягод і бездарожжа
асуджаны мы з ёю быць.
Ты навучы нас, добры Божа,
зямлю бацькоўскую любіць.

Апека ёсць у тваім слове.
Бядой нас болей не карай.
Ты выбраў толькі для любові
наш непаўторны сціплы край.

Тваёй прыхільнасці бязмернасць
хай нас атуліць кожны міг.
Прыветлівасць і міласэрнасць
заўсёды лучыць нас усіх.

Хай толькі згода, больш нічога,
расце, як майская трава.
Яднайце ўсіх нас, сінагога,
мячэць, касцёл альбо царква.

Для місіі якойсьці чыннай,
для радасці Ты нас зберог.
Любіць найлепшую Айчыну
благаславі нас, добры Бог.



Мікола ГАЛАВАЧ

## Дэбют

Нарадзіўся ў 1992 годзе
ў пасёлку Зэльва
Гродзенскай вобласці.
З 1999 года жыве ў Мінску.
Цяпер студэнт першага курса
факультэта прадпрымальніцтва
і кіравання БДАТУ. Член творчага
літаратурна-мастацкага аб’яднання
“Першапачаткоўцы”, а таксама
суполкі “Літаратурнае прадмесце”.
Друкаваўся ў
газеце “Звязда”.
У “ЛіМе” — упершыню.

### Краіна паэзіі

Там ніколі не заходзіць сонца.
Там ніколі неба не цямнее.
Там заўсёды зоркі ноччу зззяюць.
Там ніколі талент не марнее.

Там зялёным лугам стане вобраз.
Там натхненнем будзе кветка,
дрэва.
Б’ецца сэрца там хутчэй
ад ветру.
Там пяе душа птушыным спевам.

Там Купала, Колас, Танк жывыя,
Там жывыя вершы і санеты.
Там жыве і будзе жыць краіна
Вечна маладых маіх паэтаў.

***

Скажы ты мне сваё імя —
І я табе дапамагу.
Пытанні, просьбы — ўсё дарма,
І вечны позірк праз смугу.

Дазволь мне толькі зразумець
У вышыні бясконцых дум,
Чаго ты хочаш ад мяне, —
І я табе дапамагу.

Быць можа, я і ёсць анёл,
Які ў першую чаргу
Не дасць нікога ў палон
І здыме вечную тугу.

І здыме з шыі той ланцуг,
Якім скаваў нялёгкі час,
Сачыў за намі як пастух,
Глядзеў з нябёс,
Глядзеў на нас.
Глядзеў праз шэрыя аблокі,
З усмешкай на агністым твары,
Рабіў цяжкімі нашы крокі
І нашым лёсам уладарыў.

Ад мяне ты не бяжы,
Не хавайся ў мурагу,
Сваё імя ты мне скажы —
І я табе дапамагу.



Віктар ШНІП

## ЗЯЛЁНЫЯ ЖАБКІ

1.

Зялёныя жабкі —
гэта зялёнае лісце
З дрэў нашага зялёнага мінулага
Якое ўпаўшы на зямлю
Не захацела стаць залатым
І якое па сённяшні дзень
Уцякае ад сцюдзёнага
подыху восені

2.

Зялёныя жабкі —
зачараваныя царэўны
Для якіх не хапіла дурняў
Якія б для таго каб жаніцца
Мусілі страляць з лука
І скачуць па балотах жабкі
Шукаючы стралу

3.

Зялёную жабку
Цяжка адшукаць у зялёнай траве
Як і ў зялёным небе
Зялёную зорку
Але я шукаю зялёную жабку
Каб сказаць
Што яна прыгожая

4.

Зялёная жабка
Весела скача па лясной сцяжынцы
Нібы зачараваны рыцар
Вяртаецца ў свой
лясны замак
З двубою на якім ён перамог
Старога зачараванага рыцара
Рудога ў бародаўках жабоцьку

5.

Зялёныя жабкі
Начамі глядзяць на зоркі
І калі з неба
падаюць знічкі
Зялёныя жабкі
Загадваюць патаемныя жаданні
Адны хочуць стаць
зялёнымі матылямі
І лётаць-вясяліцца
над кветкамі
Другія хочуць каб гэты свет
Ператварыўся ў
суцэльнае балота
У якім жывуць толькі жабкі
Трэція хочуць,
каб не было буслоў
Якія ходзяць па балотах
у чырвоных ботах
Чацвёртыя хочуць апельсінаў…
пятыя бананаў…
І толькі адна самая маленькая
І самая зялёная жабка
Хоча, каб у яе закахаўся
Вялікі белы гарлачык
І каб на свеце
не было вайны

6.

У краіну зялёных жабак
Не кожны трапіць
Бо каб трапіць у яе
У яе трэба паверыць
Як вераць
зялёныя жабкі
У тое што з іх на зямлі
Пачалося жыццё
І калі на свеце
ёсць Бог
То ён жыве ў балоце
І ён самая зялёная Жаба

7.

У краіну зялёных жабак
Не кожны трапіць
Бо каб трапіць у яе
У яе трэба паверыць
Як вераць
зялёныя жабкі
У тое, што з іх на зямлі
Пачалося жыццё
І калі на свеце ёсць Бог
То ён жыве ў балоце
І ён самая
зялёная Жаба

8.

Шчаслівыя людзі
Падобныя на зялёных жабак
Якія сядзяць
у дзіравым чаўне
Нібыта ў каўчэгу
Што плыве праз туман
Да берага, дзе ўзыходзячае сонца
Як жабіна ікона
На якую жабкі моляцца
Калі пачынаецца
і канчаецца дзень



Фота Яўгена Шастакова




# Ведаем, помнім. Шануем?..

Неўзабаве на кніжных паліцах з'явіцца кніга "Вялікая Айчынная вайна ў кінамастацтве Беларусі", падрыхтаваная калектывам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук Рэспублікі Беларусь. Выдадзена яна на сродкі НАН у выдавецтве "Беларуская навука" невялікім накладам — каля 500 экземпляраў. Аб'ектам яе ўвагі сталі творы Нацыянальнай кінастудыі "Беларусьфільм", прысвечаныя ваеннай тэматыцы. Пра тое, як стваралася унікальнае выданне, мы гутарым з Антанінай Карпілавай, загадчыкам аддзела экранных мастацтваў Інстытута мастацтвазнаўства этнаграфіі і фальклору імя Кандрата Крапівы Нацыянальнай акадэміі навук.

## Нягучнае прысвячэнне

— Антаніна Аляксееўна, каму належыць ідэя стварэння гэтай кнігі?

— Ідэя выдання нарадзілася ў сувязі з юбілеем Вялікай Перамогі, і прапанавала яе доктар мастацтвазнаўства, прафесар Вольга Нячай, тагачасны вядучы навуковы супрацоўнік інстытута. Яна была ініцыятарам і натхняльнікам гэтай кнігі, але парадавацца яе сігнальнаму экземпляру, на жаль, ёй не давялося — нядаўна Вольга Фёдараўна пайшла з жыцця...

Хачу прыгадаць словы Д. Ліхачова: "Ёсць людзі-светачы і людзі-свечкі". Без сумніву, яна была светачам. Яе святло прыцягвала і саграваала многіх людзей. Так, гэта святло магло і апаліць, але яно было проста неабсяжнае. Вольга Нячай стаяла ля вытокаў распрацоўкі ваеннай тэмы поруч з Генадзем Ратнікавым, Ефрасінняй Бондаравай, Анатолем Красінскім.

Вольга Фёдараўна — чалавек сістэмы. Заснавальнік цэлай галіны ў нашым кіназнаўстве — тэлезнаўства, яе доктарская дысертацыя — "Тэлебачанне як мастацкая сістэма" і шмат кніг перакладзена ў Латвіі, Расіі, іншых краінах. Займалася распрацоўкай тэорыі кіно. Мастацтвазнаўца, гісторык і тэарэтык экраннага мастацтва. Педагог — выгадавала не аднаго кандыдата навук. У яе было некалькі дактарантаў. Папулярызатар, кінапрапагандыст савецкага, як тады казалі, маштабу, яе ведаюць і ўкраінскія, і расійскія, і малдаўскія кіназнаўцы. У Мінску існаваў кінаклуб – у Чырвоным касцёле. Элітарнае, лепшае кіно, дыскусійны клуб — філосафы, кіназнаўцы… Асоба грандыёзнага маштабу, яна бліскуча ведала літаратуру, да апошніх дзён літаральна кавалкамі цытавала любімых Пушкіна, Гогаля, Цютчава. Выдатна ведала жывапіс. Працяг нешараговай асобы — і ў вучнях, і ў сям'і. Дачка Вольгі Фёдараўны — Ганна Балаш, вядомы мадэльер, дызайнер, стваральніца лялек. Разам з мужам Аляксеем Дзмітрыевым распісала храм у Чэлябінску, пра што знята дакументальная стужка Галіны Адамовіч. (Цяпер гэтая стужка атрымлівае прызы на розных кінафестывалях.) Унучка Ева ў гэтым годзе скончыла мастацкае вучылішча імя А.Глебава, унук Слава стаў гісторыкам, пайшоў па слядах прадзеда Фёдара Нячая, доктара гістарычных навук. Шырокага кругагляду, высокай адукаванасці і вялікага сэрца чалавек, яна лічыла, што галоўнае — гэта справа, якую мы робім.

— Якой канцэпцыі вы прытрымліваліся, рыхтуючыся прааналізаваць даволі вялікую колькасць матэрыялу?

— Работа над кнігаю ішла няпроста. Доўга выкрышталізоўвалася структура. Спачатку меркавалася пабудаваць яе ў адпаведнасці з этапамі вайны, але потым перамаглі мастацтвазнаўчыя крытэрыі — матэрыял размешчаны па відах мастацтва.

І мы вырашылі ісці ад агульных ідэйных вобразаў да канкрэтных аспектаў. Пачынае кнігу раздзел "Кіналетапіс Вялікай вайны", прысвечаны самаму галоўнаму віду кінамастацтва — кінахроніцы. Прааналізаваны ўвесь пласт беларускіх фільмаў — мастацкіх і дакументальных — пра Вялікую Айчынную, пачынаючы з 1943 года. Прыгаданы імёны, якімі па праве ганарыцца беларускае кіно, — Марыя Сухава, Іосіф Вейняровіч, Міхаіл Бераў. Аўтар раздзела Анатоль Красінскі, чыё дзяцінства было апалена вайной. Закранула вайна і аўтараў двух наступных раздзелаў — Вольгу Нячай і Генадзя Ратнікава. Тэарэтык і гісторык экраннага мастацтва, Вольга Фёдараўна не пазбягала балючых пытанняў. У яе раздзеле "Вобразы генацыду ў мастацкай культуры і на экране" разглядаюцца тэмы трагедыі, генацыду, Хатыні, узнятыя беларускімі кінематаграфістамі.

"Я пішу пра сябе", — сцвярджаў Генадзь Ратнікаў, калі ствараў артыкул пра фільм "Сведка" для раздзела "Вобразы трагічнай памяці ў кіно і літаратуры".

Гэтыя аўтары — непасрэдныя сведкі незабыўных падзей — перадаюць эстафету наступнаму пакаленню, пасляваеннаму.

(Другая частка кнігі складаецца з раздзелаў Галіны Шур "Чалавек у прасторы вайны" (аналізуецца дакументальны кінематограф), Алены Голікавай-Пошкі "Дзеці і вайна: "И день, как век, все возрасты сравнял…", Марыны Белавокай «Прырода, апаленая вайной", Вольгі Мядзведзевай "Памяць — саюзнік сумлення», Алены Калюновай "Горам выпрабаваны зрок", Антаніны Карпілавай "Гукавыя вобразы вайны", Людмілы Саянковай "Ад эпічнага споведу да лірычнай споведзі (эвалюцыя ваеннай тэмы ў беларускім кіно)" — В. П.).



І зноў эстафета перадаецца наступнаму пакаленню. Завяршае кнігу раздзел маладых кіназнаўцаў, дваццацігадовых, – "Маладыя кіназнаўцы пра вайну".

— Апошнім часам выказваецца слушная думка: ці не штучна ствараецца цікавасць да ваеннай тэматыкі? На ваш погляд, ці не страціла актуальнасць тэма вайны? Ці засталіся новыя аспекты, не заўважаныя раней мастацтвазнаўцамі і творцамі?

— Так, спрэчкі пра ваенную тэму ідуць. Хтосьці кажа, што яна надакучыла, што састарэла, нецікавая гледачам. Старэйшае пакаленне мяркуе, што пра вайну трэба згадваць — не толькі як пра духоўны подзвіг, але і стойкасць народа, якая патрэбна не толькі на вайне. Гаварыць менавіта пра этнічную ментальнасць беларусаў, якая дапамагла нашаму народу проста выжыць. Праяўлялася яна неаднаразова — у чарнобыльскіх умовах, скажам. У перабудову.

Катаклізмы ў грамадстве раз-пораз адбываюцца…

Для Беларусі тэма вайны актуальнасці не страціла. Гістарычна склалася, што брэндам нашай кінастудыі стала Вялікая Айчынная, дык ці варта нам адмаўляцца ад спадчыны ды іранізаваць з гэтай нагоды? Маладое пакаленне лічыць, што студыя не павінна страціць гадамі завяваны брэнд. Можна па-новаму падысці да гэтай тэмы.

Дарэчы, канцэпцыя Вольгі Фёдараўны грунтавалася менавіта на гэтай думцы — даць слова некалькім пакаленням, ад сведкаў да ўнукаў, якія пацвердзілі б, што гэтая тэма не страціла актуальнасці. І хаця разважаюць і аналізуюць матэрыял маладыя кіназнаўцы з некаторым антыпафасам, іроніяй, тым не менш, і яны згаджаюцца, што тэма вайны можа атрымаць годны працяг у прыгодніцкіх стужках, трылерах, кшталту "Снайпер", "Хорар", у дэтэктывах і да т.п.

— Так, сёння на экранах столькі стужак, дзе героі вымушаныя змагацца з нейкімі нерэальнымі пагрозамі. А можна вярнуцца да геннай памяці…

— І спробы ў гэтым напрамку робяцца. Аляксандр Колбышаў прапанаваў студыі сцэнарый "Мы з будучыні"(сённяшнія хлопцы трапляюць у 1943 год і вяртаюцца ўражаныя). На жаль, сцэнарыю не пашанцавала.

— Калі мы вяртаемся да ваеннай гісторыі, аналізуем выпрабаванні, што выпалі на долю народа, — мы ўсё адно вядзём гаворку пра чалавека, які здолеў захаваць у сабе чалавечыя якасці.

— Працуючы над кнігай, мы прытрымліваліся пазіцыі Быкава. Чырвонай ніткай праз нашу кнігу праходзяць імёны Васіля Быкава і Алеся Адамовіча. Калі Быкаў пісаў гэтую акопную праўду, ён меў на ўвазе чалавека на вайне, а не вайну і чалавека. Гаворка ідзе не пра пафас вайны, не пра патэтыку: палігонам выпрабаванняў заўсёды з'яўляецца чалавечая душа. Спадзяюся, у падборы матэрыялу ў нас гэта захавалася.

Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА

На здымках: вокладка новага выдання; доктар мастацтвазнаўства Вольга Нячай, якая была ініцыятарам стварэння кнігі "Вялікая Айчынная вайна ў кінамастацтве Беларусі".

# Малюем Шапэна



Музычны геній, светач эпохі рамантызму, паэт фартэпіяна... Гэты выдатны польскі кампазітар з французскім бацькавым прозвішчам Chopin нарадзіўся 200 гадоў таму і атрымаў пры хрышчэнні імя Фрыдэрык Францішак. Потым, калі Шапэн мусіў развітацца са сваёй шматпакутнай радзімай і эмігрыраваць у Парыж, яго пачалі называць на французскі манер — Фрэдэрык Франсуа.

Сёння ж не толькі ў навуковым свеце, але і сярод проста пісьменных, адукаваных людзей, правільным лічыцца аўтэнтычнае напісанне: Фрыдэрык. А палякі, вымаўляючы знакамітае прозвішча свайго земляка, ужываюць ў першым складзе націскное "о"... Зрэшты, прычым тут філалагічныя парадоксы, калі мы спрычыняемся да музычнай індывідуальнасці Шапэна! Слухаем — і праз тонкі свет неўміручых гукавых вобразаў адчуваем яго творчы дух. Дух Вечнага Мастака: захопленага і расчараванага, дасціпнага і меланхалічнага, бунтоўнага і датклівага, капрызлівага і вялікадушнага, чуллівага і непахіснага...

Сусветнае святкаванне Года Шапэна — гэта не "абавязак" для цывілізаванага чалавецтва. Гэта вынік, шчырае сведчанне таго, што ўвесь культурны свет даўно ўзрушаны феноменам Шапэнавай музыкі, праз якую мы ўспрымаем яе творцу як нашага сучасніка. Ці не таму са шчырым задавальненнем працавалі над візуальным увасабленнем вобразу вялікага кампазітара і яго творчасці выхаванцы вядомай дзіцячай студыі выяўленчага мастацтва "Вясёлка" Палаца культуры Мазырскага нафтаперапрацоўчага завода? Пад кіраўніцтвам свайго мудрага і таленавітага педагога Святланы Купрыянавай яны паглыбляліся ў спецыяльную і папулярную літаратуру, слухалі музычныя запісы. "Шапэн жыў сярод нас: дзень пры дні дзеці даведваліся пра яго ўсё больш, адкрываючы як чалавека творчага, вельмі блізкага нам, мастакам. Рыхтуючыся да выстаўкі, прысвечанай юбілею Шапэна, мы сталі на галаву вышэй...", — кажа С. Купрыянава. Новыя работы яе вучняў (малюнкі гуашшу, акварэллю, алоўкам, тушшу), прадстаўленыя на вернісажы падчас фестывалю "Музы Нясвіжа-2010", як заўсёды, уразілі адухоўленай вобразнасцю, глыбінёй і самастойнасцю задумы, арыгінальнасцю кампазіцыі.





Святлана БЕРАСЦЕНЬ

На здымках: Даша Сурко "Партрэт Шапэна"(акварэль); Оля Ліпская "Творчы шлях кампазітара"; Каця Краўчанка "Шапэн — двухаблічны" (туш).

Фота Віктара Кавалёва

Быў час, калі з дня ў дзень, з раніцы ў раніцу мы сустракаліся з Мікалаем Старадымавым у адным рабочым пакоі. Тысячы кіламетраў, што аддзялялі мяне ад бацькоўскага дому ў Зацітавай Слабадзе, а яго — ад роднай Украіны, дзе жылі блізкія людзі, нікому з нас не здаваліся вялікай адлегласцю. Была адзіная краіна, нікто не лічыў Ашхабад, Туркменістан, дзе мы з Міколам служылі ў рэдакцыі салдацкай "шматтыражкі" "За Родину", чужой краінай. Хіба што, адтурбоцыўшыся дзень, вярталіся дахаты і праз звычайную будзёншчыну ўспаміналі ў сям'і дом, свае беларускія ці украінскія сцежкі. А пасля ізноў — на працу, на палігон, у камандзіроўкі, да герояў сваіх нарысаў, рэпартажаў, карэспандэнцый…

# «Рудзенск зрабіў мяне пісьменнікам…»

І Мікола, і я шмат тады пісалі. Не толькі для роднай салдацкай "дывізіёнкі", але і ў акруговую газету "Фрунзевец", у туркменскія рэспубліканскія газеты і часопісы. Героі жылі побач з намі… Франтавікі, якія вызвалялі Беларусь у Вялікую Айчынную… Афіцэры, якія прайшлі баявую школу ў Афганістане... І сам Мікола прыехаў да нас у калектыў, маючы за плячыма афганскі досвед.

Але пра што мы амаль не гаварылі, дык гэта пра Пухавіччыну. Так вось здарылася, што "пухавіцкую" частку біяграфіі свайго туркестанскага таварыша, рускага пісьменніка Мікалая Старадымава, які жыве і працуе зараз у Маскве, я высвятляю толькі цяпер. Так адбылося можа яшчэ і таму, што тады мы былі на самым пачатку літаратурных, журналісцкіх дарог… Ды і таму, што разам служылі ўсё ж не вельмі працяглы адрэзак часу. Прыехаў Мікола ў Ашхабад у 1987 годзе. А ўжо ў красавіку 1988 года мяне накіравалі на новае месца вайсковай службы…

Дык што ж яднае майго таварыша з пухавіцкай старонкай? Расказвае Мікалай Аляксандравіч Старадымаў: "…У мяне бацька быў афіцэрам. І ранняе дзяцінства маё праходзіла ў гарнізонах. Самыя першыя ўспаміны (мне было паўтара года): танкі ідуць па "танкавай дарозе", зусім недалёка ад нашага дома ў беларускай Мар'інай Горцы… І на футбольнае поле садзіцца верталёт — тады пакуль што дзіўная машына… Адпаведна, і кола зносін было зразумелае — салдаты і афіцэры, бацькавы паплечнікі па службе, іх жонкі, іх дзеці. У гэтых умовах родзічы маёй маці былі як пэўнае вакно ў іншы свет! Дзед Пеця (Пётр Язэсевіч Лобач) і бабуля Лена (Алена Ігнатаўна Лобач) жылі ў пасёлку Рудзенск, што пад Мінскам. Туды мы з братам прыязджалі на канікулы. Адрас нашых дзядулі і бабулі — вуліца Горкага, дом 22/20. Неяк і жылі мы там цэлы год, калі бацьку перавялі на новае месца службы. А на тым самым новым месцы ў нас не было жылля.

Пётр Язэсевіч Лобач быў на дзіва добрым чалавекам. Ласкі асаблівай і сюсюкання мы з братам ад яго не бачылі і не чулі. Але сыходзіла ад дзядулі нейкая асаблівая, прыцягальная дабрыня. Я проста маліўся на дзеда. На ўсё жыццё ён застаўся для мяне незаменным узорам чалавека сумленнага. У традыцыях Беларусі была павага да ветэранаў. І памятаю, што да дзеда ставіліся як да чалавека заслужанага. І торф прывозілі, і дах неяк дапамаглі адрамантаваць, і з сенам для каровы падтрымалі… Бо дзед быў інвалід, прайшоў усю вайну.

Да Вялікай Айчыннай вайны дзед Пеця займаў нейкую пасаду ў сельсавеце. Быў камуністам. Калі пачалася вайна, ніхто і падумаць не мог, што так хутка прыйдзе акупацыя. Каманду на эвакуацыю дзед Пеця атрымаў на трэці ці чацвёрты дзень вайны. Трэба было яму эвакуіраваць калгасны статак кароў. Сваім, зразумела, ходам. Між тым, карова — не чалавек, доўга яна хутка ісці не можа. Ёй патрэбны нармальны адпачынак. Прыблізна на трэці дзень эвакуацыі стала зразумела, што далёка адысці не ўдасца. Было прынята рашэнне статак знішчыць. Па законах мірнага часу, зразумела ж, дурное і зусім няправільнае рашэнне. Але ж тады была вайна. І, відавочна, кіраваліся логікай: "Каб каровы, іх мяса не засталіся ворагу!.."

Цяпер ужо, з вышыні часу, калі ўспамінаю пра "дзядулевы" калгасны статак 1941 года, перад вачыма ўсплываюць карціны з Афганістана, Чачні. Мне столькі разоў даводзілася бачыць, як паміраe паранены скот, альбо бачыць разварочаных авечак, кароў, коз… Колькі наглядзеўся на гэтых выпадковых ахвяр вайны! Яны траплялі на міны, аказваліся мішэнямі артылерыйскіх абстрэлаў, а, здаралася, гінулі таму, што салдаты ад няма чаго рабіць абіралі іх за мішэні!.. Іншы раз у некаторых кароў ці авечак была выразаная пячонка ці яшчэ лепшы кавалак, астатняе ж было кінута на спажыву сабакам ды крумкачам…



Мікалай Стараадымаў (злева) з родзічамі ў Хатыні.

Пасля няўдалай эвакуацыі мой дзед аказаўся ў партызанскім атрадзе. Позняй восенню захварэў на запаленне лёгкіх. Вывезлі на самалёце на Вялікую зямлю. Падлячыўся. І аказаўся ў траншэях абаронцаў Масквы, там, дзе ішлі самыя цяжкія баі. Цікавы знак праз дзесяцігоддзі мне падрыхтавала гісторыя. У 1980 — 1985 гадах я служыў у Кізыл-Арваце (Туркменія) у 58-й Рослаўльскай мотастралковай дывізіі. Дык вось, адзін з палкоў гэтага злучэння ў час бітвы пад Масквою аказаўся ў акружэнні і амаль цалкам загінуў. Праз лінію фронту прарвалася ўсяго некалькі чалавек. Мой дзед суправаджаў у штаб палка аднаго з акружэнцаў з гэтага палка…

Пасля быў ізноў шпіталь. Дзеда хацелі камісаваць. Аднак ён ізноў дамогся, каб адправілі на фронт. У 1943 годзе пад Ленінградам патрапіў пад абстрэл нямецкага мінамёта. І тады атрымаў цяжкія знявечанні. Выжыў, ды толькі да канца дзён не працавала ў яго адна рука, застаўся з таго бою з пакалечанай, на адно вуха страціў слых. Вярнуўся дадому пасля вызвалення Беларусі. І, нягледзячы на стан здароўя, амаль да канца жыцця працаваў… Бабуля Лена была проста выдатнай апавядальніцай. У грамадзянскую вайну яна апынулася ў дзіцячым доме. Іншы раз расказвала, як галадалі, елі, што толькі давядзецца… Неяк была ў Башкірыі, знайшлі мёртвага вярблюда, па ім чэрві поўзаюць, а елі — куды падзенешся… Апавяданні свае пачынала звычайна так: "Фактам дзела…" Гэта ў яе прыказка такая …І кнігі чытала. Гаворыць, што вясковыя людзі кнігі не чыталі, стэрэатып такі, што ўсе былі бязграматныя. Не, аказваецца, чыталі… Колькі помню — заўсёды працавалі. Агарод трымалі вялікі. За Рудзенскам поле бульбянае. Там — і дрэвы пладовыя, кусты ягадныя. Карову трымалі, дзед спрабаваў пчол разводзіць. Толькі нешта ў яго не атрымалася.

Першыя свае літаратурныя спробы Мікалай Старадымаў зрабіў менавіта ў Рудзенску, падчас вучобы ў мясцовай школе ў чацвёртым класе. "Калі я пісаў фантастычную аповесць, адбываліся першыя палёты ў космас, усе марылі пра прафесію касманаўта, — згадвае Мікалай Старадымаў. — І аповесць, наколькі я памятаю, мела крыніцай мае касмічныя фантазіі. Раз на тыдзень я чытаў сваю аповесць у класе. Пэўна, на гадзінах палітінфармацыі ці яшчэ на якіх-небудзь выхаваўчых мерапрыемствах… Калі ўжо дарослым прыязджаў у Рудзенск, то шмат хто з сяброў маленства згадваў пра мяне ў звязку з памяццю пра тую фантастычную аповесць."

Адпаведна, і мы працавалі, калі прыязджалі. Зразумела, болей бегалі і гулялі (гойсалі, па выказванні бабулі). Але калі што трэба было рабіць, то рабілі. І зямлю капалі, не цаліну, зразумела, а зямлю рыхлую, агародную… І дровы пілавалі, калолі, жука каларадскага збіралі, ліпавую квецень… І бульбу капалі, яблыкі-ягады збіралі. З таго часу ў мяне вялікая павага да сельскага люду, які працуе на нас, гараджан. З таго часу пераканаць, што дабрабыт вяскоўцаў залежыць ад таго, як яны напрацуюць…"

Пагадзіцеся, дастаткова цікавы ўспамін. Магчыма, імкнучыся ў сваёй мастацкай прозе ствараць партрэты нашых сучаснікаў, рускі пісьменнік Мікалай Старадымаў трымае перад вачыма рудзенскіх, пухавіцкіх, мар'інагорскіх рупліўцаў ад зямлі…"

Апошнім разам Мікалай Аляксандравіч наведваўся ў Рудзенск у 2003 годзе…

У размовах са мною, у лістах, якія даслаў з Масквы, Мікалай расказвае пра тое, што першыя свае літаратурныя спробы зрабіў менавіта ў Рудзенску, падчас вучобы ў мясцовай школе ў чацвёртым класе. "Калі я пісаў фантастычную аповесць, адбываліся першыя палёты ў космас, усе марылі пра прафесію касманаўта, — згадвае Мікалай Старадымаў. — І аповесць, наколькі я памятаю, мела крыніцай мае касмічныя фантазіі. Раз на тыдзень я чытаў сваю аповесць у класе. Пэўна, на гадзінах палітінфармацыі ці яшчэ на якіх-небудзь выхаваўчых мерапрыемствах… Калі ўжо дарослым прыязджаў у Рудзенск, то шмат хто з сяброў маленства згадваў пра мяне ў звязку з памяццю пра тую фантастычную аповесць. А яшчэ маю цягу да літаратурнай творчасці падтрымлівала ўся беларуская, рудзенская радня… Відаць, менавіта на ўзроўні падсвядомасці на выбар пісьменніцкай скіраванасці ў маім жыцці…"

А зараз — некаторыя ўдакладненні да жыццёвай і творчай біяграфіі Мікалая Старадымава. Нарадзіўся Мікалай Аляксандравіч 24 лютага 1956 года ў Дрэздэне, дзе бацька служыў у складзе Групы савецкіх войск у Германіі. У 1973 годзе закончыў сярэднюю школу ў Жытоміры. У 1974 годзе паступіў у Данецкае вышэйшае ваенна-палітычнае вучылішча інжынерных войск і войск сувязі на аддзяленне інжынерных войск. Закончыў навучальную ўстанову з "чырвоным дыпломам" у 1978 годзе. Быў размеркаваны ў ваенна-будаўнічыя войскі. Прымаў удзел у будаўніцтве дома адпачынку "Русь" і падмаскоўнага цэнтра адпачынку касманаўтаў. Восенню 1980 года накіраваны ў Афганістан.

Але ў штабе Чырванасцяжнай Туркестанскай ваеннай акругі ў Ташкенце адбылося пераразмеркаванне — на пасаду карэспандэнта-арганізатара 58-й гвардзейскай мотастралковай дывізіі ў горад Кізыл-Арват (Туркменія). Пасля там жа займаў пасаду адказнага сакратара "шматтыражкі". У 1985 годзе Мікалая Старадымава накіравалі адказным сакратаром газеты "Гвардеец" 5-й гвардзейскай мотастралковай дывізіі ў Афганістан. У 1987 годзе Мікалай Аляксандравіч вярнуўся ў Туркестанскую акругу. Тут у Ашхабадзе, у рэдакцыі газеты "За Родину" мы з ім сустрэліся і пазнаёміліся. Мікалай актыўна друкаваўся ў туркменскіх газетах і часопісах. Тут пабачылі свет першыя яго мастацкія творы — дзіцячыя апавяданні пра Афганістан у калектыўным зборніку выдавецтва "Магарыф". Сярод знаёмцаў ваеннага журналіста былі туркменскія публіцысты і пісьменнікі Уладзімір Грачоў, Уладзімір Пу, Касым Нурбадаў, Азат Рахманаў, Альберт Паляхоўскі, Аляксандр Гоўберг, Худайберды Дзіванкулiеў і інш.

У 1989 годзе маёра М. Старадымава прызначылі пастаянным карэспандэнтам газеты Чырванасцяжнай Туркестанскай ваеннай акругі "Фрунзевец" (у час Вялікай Айчыннай вайны сярод аўтараў выдання быў народны паэт Беларусі Якуб Колас) па Туркменістану. У 1991 годзе вопытны ваенны газетчык паступіў у Ваенна-палітычную акадэмію імя У. І. Леніна на рэдактарскае аддзяленне. Закончыўшы акадэмію, працаваў у газеце "Красная звезда" — карэспандэнтам, намеснікам рэдактара аддзела. У 1998 — 2001 гг. Мікалай Стараадымаў — супрацоўнік Цэнтра грамадскіх сувязяў ФСБ Расіі. У 2001 годзе Мікалай Аляксандравіч Старадымаў звольніўся ў запас у званні палкоўніка. Па завяршэнні вайсковай кар'еры працаваў у часопісе "Воинское братство", газетах "Континент", "Президент", "Энергетика", у часопісе "Боевое братство".

Акрамя ўдзелу ў вайне ў Афганістане Мікалай Аляксандравіч яшчэ і самы непасрэдны сведка і ўдзельнік падзей на Паўночным Каўказе, куды не аднойчы выязджаў у службовыя камандзіроўкі. Узнагароджаны ордэнамі "За службу Радзіме ва Узброеных сілах СССР" 3-й ступені, "За ваенныя заслугі", медалём Суворава. Журналісцкая работа Старадымава адзначана прэміяй Саюза журналістаў Расіі за 1995 год у намінацыі "За працу ў "гарачых кропках". Мікалай Старадымаў — лаўрэат літаратурных прэмій імя Аляксандра Грыбаедава і Уладзіміра Карпава, а таксама прэміі "Залатое пяро Русі".

Пісьменнік — аўтар 12 арыгінальных кніг. А гэта — раманы і аповесці "Смяротны прысуд", "Кіднепінг па-руску", "Забіць, каб выжыць", "След мсціўца", "Споведзь самазабойцы", "Кроў з душы не змываецца", "Зульфагар", "Браток, пакінь пакурыць!", "Геній смерці"… Некаторыя з іх яшчэ і перавыдаваліся, прыходзілі да чытача і два, і тры, і нават чатыры разы. З надаўніх кніг — "Баявы дзённік Афганскай вайны". Першая дакументальная аповесць Мікалая Старадымава была надрукавана ў 1988 у ашхабадскім часопісе "Юность" ("Яшлык") — "Тры вайны — і ўсё жыццё", прысвечаная лёсу туркмена, палкоўніка Савецкай Арміі Алі Абасава.

Мікола БЕРЛЕЖ

Старонку падрыхтавалі доктар філалагічных навук, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Адам Мальдзіс і Алеся Лапіцкая.

Янка ТРАЦЯК

## Паэтычная прагулка

Пародыя



Разгойдвае вецер арэлі,
Імчыцца кудысьці за свет.
І ночы, і дні адубелі,
Ссінеў на прагулцы паэт.

Так лёс нас
улядна згінае
Фармуе, як цеста ў дзяжы.
Гарбатка такая смачная…
Ну вось і сугрэў для душы.

Галіна Каржанеўская

Вятрыска шукае прытулку,
У твар б'е парывам да слёз.
Галіна вяла на прагулку
Паэта ў люцейшы мароз.

Пыталася строга: "Прызнайся,
Як цеста ўзбухае ў дзяжы?..",
Казала: "Ты вершаў цурайся, —
Жыццё лепш сваё беражы".

Навокал зямля адубела,
Скалела сама да касцей.
Паэт жа зрабіўся ўвесь белым,
Маўчаў і пісаць не хацеў.

Не тыя ўжо сёння паэты,
Прагулка для іх, што іспыт,
Сінеюць, урэшце, на ветры, —
Такі ўжо іх вырак і быт.

Разгойдвае вецер каліну,
У твар б'е парывам да слёз.
Выводзіла часта Галіна
Паэтаў на люты мароз.

Генадзь АЎЛАСЕНКА

## Што можна рабіць з вершам?

Пародыя

вершы лягуць на падлогу
каб на іх сядзелі ногі

каб па іх хадзілі рукі
без усякае прынукі

і стаялі каб галовы
у якіх гуляюць словы

Таццяна Будовіч
("Маладосць" № 12 за 2009 г.)




можна кінуць на падлогу
каб на ім сядзелі ногі

можна да дзвярэй прыбіць
каб рукам зручней хадзіць

можна церабіць галовы
каб у іх гулялі словы

можна ў слоік закатаць…

ці не лепш яго… чытаць?

Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ

## Яны гаварылі са мной

Пародыя

Ноч асенняя дыктавала
Незнаёмыя вершы мне...
Еўфрасіння і Янка Купала
Адлюстроўваліся ў акне…

Так сабраліся сёння разам
На пісьмовым адным стале…

Навум Гальпяровіч
(З кнігі "Насцеж")

Ноч асенняя як навала
Не давала забыцца сном…
Еўфрасіння і Янка Купала
Мне пачуліся за акном.

Гэта ж трэба такому здацца:
Як жывыя — не прывід,
не цень.
З перапуду сказаў ім: — Здрасце!
І паправіўся: — Добры дзесь!

А навокал — таемны
вусціш.
Спіць Сафія над вечнай
Дзвіной.
Запытаўся Купала: —
Ці пусціш?
Не адзін я — жанчына
са мной.

Усё ад шчасця ў мяне
траслося —
Вось і стрэліся праз вякі.

— Калі ласка, заходзь,
цётка Фрося!
Палачане мы — землякі.

Насцеж дзверы дый
вокны насцеж.
— Дзе вам будзе ўвайсці
працей?..
Пасадзіў я тады, зазначце,
На пісьмовым стале гасцей.

З імі ноч гаварыў бы, пэўна,
Ды Купала зірнуў на неба:
— Нам пара ўжо:
да першых пеўняў
На аблокі ўзняцца трэба.

І пайшлі яны ў прыцемак сіні —
Не сказаў бы хадою шпаркай —
Наша светлая Еўфрасіння
І Песняр наш, сагрэты чаркай.



Шаржы Алега Карповіча

Міхась СЛІВА

# Сябры пазнаюцца ў ...жартах

Гумарэска

У Івана Мікітавіча ёсць некалькі любімых свят. Гэта Новы год, Каляды і ...першае красавіка. Дзень гумару і смеху для яго нават больш жаданы, чым іншыя. Бо Іван Мікітавіч вельмі любіць жартаваць. У іншыя дні сёй-той можа пакрыўдзіцца на твой жарт, а першага красавіка раздолле: жартуй колькі хочаш і над кім хочаш, нават начальніку свайму можна сказаць, што ў яго спіна белая!

...На гэты раз першае красавіка прыпала на выхадны дзень. Таму Іван Мікітавіч рашыў разыграць сваіх знаёмых. Пазваніў аднаму з іх, Анатолю:

— Толя, прывітанне! Ты чым займаешся? Адпачываеш? Вось і добра! Мне трэба быць у вашым раёне, дык я хачу зайсці да цябе. Даўно ж не бачыліся. Пасядзім, пагутарым...

— Добра, заходзь, — не надта цвёрдым голасам адказаў Анатоль.

Іван Мікітавіч набраў другі нумар:

— Аркадзь Васільевіч! Гэта цябе турбуе Іван Мікітавіч. Сёння буду па справах у вашай старане, зайду да цябе. Рыхтуй закусь!

Перавёўшы дыханне, Іван Мікітавіч зноў круціць дыск тэлефоннага апарата:

— Лёня? Пазнаў? Так, я, Іван Мікітавіч. Збіраюся да цябе ў госці. Будзеш чакаць? Вось і выдатна, еду!

Хітра ўсміхнуўшыся, Іван Мікітавіч зручна ўладкаваўся на канапе і ўзяў у рукі сваю любімую газету. Неўзабаве ён ужо мілагучна пахрапваў...

Разбудзіў яго тэлефонны званок. Званіла жонка Анатоля:

— Іван Мікітавіч, дзень добры! Гэта Ніна. Хачу сказаць табе, што Толю нечакана выклікалі на работу. Начальнік яго сказаў, што нешта здарылася. Калі вернецца? Не ведаю, але казаў, што не хутка...

Праз некаторы час зноў зазваніў тэлефон. На гэты раз патурбаваў Аркадзь Васільевіч:

— Іван Мікітавіч! Ты прабач, дружа, але мне неабходна цешчы дапамагчы пераставіць шафу. Едзем вось з жонкай, трэба ж уважыць старога чалавека. Так што сустрэнемся ў іншы раз. Ты звані, заходзь, буду рады!

Не паспеў Іван Мікітавіч зноў уладкавацца на канапе, як давялося ў трэці раз браць тэлефонную трубку:

— Алё! Дзядзя Ваня? — пачуўся на тым канцы дроту дзіцячы голас. — Гэта я, Вова. Тата сказаў, што ён паехаў на вакзал сустракаць маму з цягніка. Вернецца позна...

Іван Мікітавіч весела засмяяўся, падміргнуў, гледзячы ў люстэрка і няспешна ўзяўся за газету.

# Яго праславіў "Вожык"

Заўтра, 31 ліпеня, Міхасю Сліве спаўняецца 60 гадоў.



Па-рознаму прыходзяць людзі ў літаратуру. Часам у творчым выбары рашаючым бывае сам выпадак ці нейкая знакавая сустрэча. Вядома, што вырашальнае слова ў кожным выпадку павінен сказаць яго вялікасць талент. Студэнт-чацвёртакурснік Белдзяржуніверсітэта Міхась Кавалёў, ідучы са сваім сябрам ды яшчэ цёзкам Міхасём Кузьмічом тады ў часопіс "Вожык" дзеля знаёмства і не падазраваў, што творчы старт яго пачнецца менавіта з гэтых нясмелых крокаў да рэдакцыі, што месцілася пад дахам слыннага Дома друку.

Спачатку хлопцу далі апрацаваць некалькі пісьмаў чытачоў. Давалася тая апрацоўка цяжкавата, з потам, бо трэба было рашуча націскаць на гумар. І дастаткова пакапаўшыся ў таемных схронах душы, зразумеў студэнт, што гумар для яго рэч і не зусім чужая. Ды і сама сустрэча з вядомымі вожыкаўцамі Змітраком Бяспалым, Валянцінам Зубам, Уладзімірам Правасудам, Янкам Сіпаковым, Яраславам Пархутам нібыта сыпанулі на душу прыгаршчы таго гумаровага жару. Нездарма ж кажуць, з кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Набіраўся малады творца ад старэйшых пільнасці, добрага зроку і ўмення вышукваць у прыхаваным злоснае, а ў непрыхаваным — смешнае ды і пацешнае.

І малады Кавалёў нечакана стаўся адным з самых актыўных аўтараў "Вожыка". Яго фельетоны, гумарэскі, смяшынкі пачалі з'яўляцца ў кожным нумары часопіса, здаралася, што на некалькіх старонках адразу. Калі ж, як ні ў маладосці, і творча, па-пачлінаму, шчыраваць?!

Вось тады і прапанавалі супрацоўнікі часопіса маладому і заўзятаму аўтару падшукаць сабе нейкі псеўданім. Дый прозвішча Кавалёў, як лічыў ён сам, малавата гумарыстычных іскраў тоіць у сабе. Бывае, пашанцуе сяму-таму з творцаў, прозвішча ягонае само, як кажуць, адпавядае жанру. Ніякі псеўданім не патрэбен, тым жа Корбану, Скрыпку, Правасуду, Зубу. Перш чым стрэльнуць вершам, страляеш прозвішчам.

Што ні прыдумваў Міхась, нават вытворнае М. Кавальскі, усё было не тое. А тут неяк паехаў дамоў, да бацькоў, пайшоў у сад. Сарваў яблык, гляну ў на сліву. І адразу мільганула ў галаве тое самае прозвішча. А чаму б і не Сліва? Той жа ўкраінец Губенка некалі абраў сабе псеўданім Вішня. О, як жа пастаралася на сатырычна-гумарыстычнай ніве тая Вішня! Дык хай шчырые і наша Сліва!

Ужо даўно чытач пераканаўся, якую адметную кіслінку, сваю саладзінку мае і яна, беларуская Сліва, якую ўвасабляе сабой наш вядомы гумарыст Міхась Кавалёў.

Сёння пісьменнік Міхась Сліва гатовы і сам з кім хочаш падзяліцца сваім гумарыстычным вопытам, пазычыць уласнага гумарыстычнага жару маладзейшаму, хто толькі пачынае тварыць.

За плячыма яго немалы і жыццёвы, і творчы шлях. Пасля універсітэта працаваў у Быхаўскай і Смалявіцкай райгазетах, у Беларускім навукова-даследчым інстытуце жывёлагадоўлі. З 1985 года жыве ў Рагачове, працуе ў рэдакцыі газеты "Свабоднае слова". А чытачы ведаюць свайго любімага сатырыка і гумарыста па кнігах "Усмешка Джаконды", "Прыгожыя караблі", "Запрашаю ўсміхнуцца", "Віртуальнае каханне". Часта Міхась Мітрафанавіч выступае ў друку і з літаратурна-крытычнымі артыкуламі, мае нават свой крытычны зборнік.

Калісьці ў літаратурны шлях яго благаславіў "Вожык". У кагорце слынных вожыкаўцаў яго імя і сёння гучыць годна і важка.

Казімір КАМЕЙША

Павел САКОВІЧ

Эпіграмы

Сяргей Давідовіч

Ён мастаком бы
добрым стаў,
Ды дзе набрацца
грошай, браце?
На фарбы
ганарар аддаў,
А валасы –
на пэндзлі траціў?

Міхась Пазнякоў

У самай рознай абстаноўцы
Ён паказаў сябе станоўча.
Ды парадысту, калі чэсна,
Навошта гэтакі, бязгрэшны?
Натворыць вось памылак розных,
Тады пачну…
Яшчэ ж не позна!

БРАНІСЛАЎ ЗУБКОЎСКІ

# Даў прамашку

Географ з гісторыкам на вялікім перапынку рэжуцца ў настаўніцкай у шахматы.

— Слухай, Пятровіч. Ляціць, значыцца, жук. Шуміць. "Заб'ю", — абяцае. Гусь пытае: "Каго?". Цяля кажа: "Няйначай мяне". А вутачка: "Так, так, так". З перапуду, мусіць быць, мовіла.

— Гусь ідзе гусь, — цешыцца Міхаіл Пятровіч. Сам сабе на вуме. А вось сарока-белабока, тая гасцінная, хуткая па часе. І па парозе паскача, і кашу зварыць, і дзетак пакорміць.

— Увішная, — згаджаецца Іван Сідаравіч. А гусь ён і у народзе гавошнік. А вутка такалка, бачыш.

Пераставіўшы шахматную фігуру на дошцы, Іван Сідаравіч смяецца:

— Мат табе, Пятровіч.

— Загаварыў ты мяне, — злуецца ў адказ гісторык. Прамашку я даў, — і скідвае ў адну кучу шахматныя фігуркі на дошцы.

# Паэта «дух бадзяжны»

Да сёлетніх выпускнікоў філалагічнага факультэта БДУ ў мяне асаблівае стаўленне. Так бывае. Бывае, што з пэўным студэнцкім курсам ты знаходзіш нейкае датклівае паразуменне, калі хочаце, нават духоўную сувязь... І тады на лекцыі ляціш, як на крылах. Табе карціць дзяліцца са студэнтамі сваім захапленнем ад толькі што прачытанага твора і выслухоўваць іх меркаванні на гэты конт. Табе цікава з імі дыскутаваць, абмяркоўваць літаратурна-мастацкія з'явы і навуковыя падзеі... Менавіта такім быў для мяне ў гэтым годзе пяты курс беларускага аддзялення філфака БДУ. Тут пра кожнага студэнта трэба гаварыць асобна. Бо ва ўсіх — свае навуковыя зацікаўленасці, свае густы, свае погляды на тыя ці іншыя філалагічныя праблемы. І я вельмі рада, што сёння мне выпала магчымасць прадставіць адну са студэнтак-выпускніц гэтага курса.

Знаёмцеся — Алена Карп. Нарадзілася ў 1987 годзе ў гарадскім пасёлку Карэлічы Гродзенскай вобласці. На выбар будучай прафесіі, як прызнаецца Алена, найперш паўплывалі бацькі. Маці — настаўніца беларускай мовы і літаратуры, а бацька, хоць і працуе ў іншай сферы, аднак цікавіцца нацыянальнай айчыннай культурай. У сям'і заўжды панавала атмасфера павагі да айчыннага прыгожага пісьменства, мастацтва. Калі ў 2005 годзе Алена скончыла школу, праблем з вызначэннем далейшага шляху не было, яна дакладна ведала, што хоча займацца філалогіяй.

У прафесійным станаўленні Алены, на маю думку, немалаважную ролю адыграла тое, што на трэцім курсе яна прыйшла ў семінар прафесара Людмілы Сіньковай — вучонага, здольнага зарыентаваць, захапіць, зарадзіць сваёй энергетыкай. Бо калі тое, што вы робіце, вас не захапляе, ці — яшчэ горш! — з'яўляецца прымусовай працай, вы ніколі не здзейсніце нічога вартага. Алена Карп — чалавек менавіта захоплены, і за гады вучобы паспела зрабіць шмат. Маю на ўвазе не толькі выдатныя адзнакі ў залікоўцы. Але найперш — публікацыі ў навуковых і літаратурна-мастацкіх выданнях, прызавыя месцы на студэнцкіх навукова-практычных канферэнцыях. У мінулым годзе Алена стала фіналісткай двух конкурсаў — маладых крытыкаў і маладых літаратараў імя Карласа Шэрмана.

Сёння мы прапануем чытачам "ЛіМа" пазнаёміцца з артыкулам Алены Карп, прысвечаным асобе і творчасці Віктара Стрыжака.

Лада АЛЕЙНІК

# «І засталося вечна жыць...»

Віктар Стрыжак, нягледзячы на сваё адносна нядоўгае жыццё, пакінуў след у беларускай літаратуры яркімі і неардынарнымі творамі. Яго талент выклікае цікавасць і да яго біяграфіі — як да матэрыялу, што дапамагае зразумець генезіс творчай індывідуальнасці паэта. Аднак цікаўны чытач або даследчык, які захоча прасачыць жыццёвы шлях В. Стрыжака, сутыкнецца з недахопам звестак.

Тыя біяграфічныя даведкі, што друкаваліся пры жыцці пісьменніка (у часопісах, калектыўных зборніках), не могуць прэтэндаваць на вычарпальнасць ці нават паўнату. Асобныя недакладнасці мае біяграфічная нататка ў адным з апошніх выданняў, дзе прадстаўлена творчасць В. Стрыжака, "Я хацеў вам сказаць...".

А вось укладальнік анталогіі "Краса і сіла", даючы штрыхі да партрэта В. Стрыжака, паказвае яго творчую індывідуальнасць, а не фактаграфічна дакладна ўзнаўляе жыццёвы шлях паэта. Якраз гэтым і каштоўная яго невялікая, але выключна прыязная ў адносінах да В. Стрыжака лірычная зацемка, гэтаксама як і артыкулы Л. Сіньковай "Вачыма студэнта" і С. Дубайца "Паэзія або смерць", у якіх кожны аўтар па-свойму характарызуе паэта і разважае пра лёс беларускіх творцаў наогул. Цікавасць для даследчыка ўяўляюць таксама ўспаміны блізкага сябра В. Стрыжака А. Пісьмянкова, змешчаныя ў кнізе "Думаць вершы".

У гэтым артыкуле выкарыстаны згаданыя вышэй крыніцы, а таксама матэрыялы інтэрв'ю з У. Маруком і ўдавой паэта Валянцінай Стрыжак, прадстаўленыя ёю дакументы і газеты з публікацыямі Віктара. Увага надаецца найперш тым момантам, з якіх, па словах І. Замоціна, "фактычна складаецца ўвязка жыцця і дзейнасці пісьменніка з яго літаратурнай прадукцыяй"; да іх даследчык адносіць абстаноўку ранняга дзяцінства, гады вучобы і розныя ўплывы, што адчувае творца (грамадскія, літаратурныя і г.д.).

В. Стрыжак нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Заспа Рэчыцкага раёна (родам адтуль і паэты Віктар Ярац і Сяржук Сыс). Заспа і цяпер вялікая, нябедная, а галоўнае — маляўнічая вёска. "Тут зямля такая лірычная, паэтычная. Вельмі багата людзей-рамантыкаў", — распавядаў С. Сыс у рэпартажы, падрыхтаваным З. Бартосікам. У творчасці В. Стрыжака вёска з яе традыцыйнай маральнасцю, спакоем супрацьпастаўлена тлумнаму, мітуслівому гораду, дзе лірычны герой адчувае сябе чужым:

Я зноў размяк, я зноў размок,
Душу наскрозь маю прадзьмула.
Скажы мне, горад, ты б мне змог
Ну хоць які знайсці прытулак?
Ці мне ісці з табой на "вы"?
Альбо з табой злівацца болей?
Жыву ў табе я не жывы
І не самім сабою.
І ты зялёнай ад лясоў
Маёй душы не бачыш тону.
Даўно мой голас перасох
Крычаць табе, што ты дальтонік.



Малюнак Алесі Ісы

Горад атаясамліваўся для паэта з пыхай, фанабэрыяй, бюракратызмам чыноўніцтва. Горад быў нібы варожай тэрыторыяй, якую трэба заваёўваць, у той час як вёска была натуральным беларускамоўным асяроддзем, крыніцай натхнення. "Мы апошнія з нашага роду, // Каму сняцца вясковыя сны", — пісаў А. Пісьмянкоў, паэт аднаго з В. Стрыжаком пакалення. Сапраўды, гэта былі паэты, якія не вялі размоў пра еўрапеізацыю беларускай культуры, моцна трымаліся сваіх каранёў, і, магчыма, менавіта іх вясковасць (якой яны, дарэчы, ніколькі не саромеліся) дапамагла ім застацца вернымі беларускай ідэі, ствараць мастацкія творы, што могуць упрыгожыць любую літаратуру.

Час, у які давялося жыць паэту, С. Дубавец характарызуе наступным чынам: "...часы Стрыжака нагадвалі сярэднявечча з інквізіцыяй. Тады адзіным месцам, дзе грамадства нейкі час цярпела валацугу-паэта, была качагарка Дома творчасці ў Каралішчавічах пад Мінскам. У выніку і "засвяціцца" Стрыжаку... не выпала". Згаданы крытык вядомы сваімі смелымі парадоксамі, але ў дадзеным выпадку няма падстаў сумнявацца ў справядлівасці яго слоў. Станаўленне творчай індывідуальнасці В. Стрыжака сапраўды адбывалася ва ўмовах уціску нацыянальнага. Валянціна Фёдараўна згадвала, што ўжо ў школе В. Стрыжак размаўляў толькі па-беларуску, што не заўсёды падабалася настаўнікам. Яшчэ са школы ён верыў у самастойны шлях Беларусі ("...нехта ўспомніць з беларусаў і гісторыю нашу, і магілы продкаў нашых...") і марыў пра яе незалежнасць. Падчас вучобы ва універсітэце В. Стрыжак з сябрамі пісалі і расклейвалі ўлёткі з заклікам Ф. Багушэвіча: "Не пакідайце мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!". За дзейнасць такога кшталту В. Стрыжак быў выключаны з універсітэта. Прычынай гэтаму быў не толькі ўяўны "нацыяналізм", але і гарачы, неўтаймоўны характар паэта. Непадробную і датклівую любоў да мовы і сваёй краіны, павагу да яе гісторыі В. Стрыжак захаваў праз усё жыццё.

Пасля службы ў войску ён аднавіўся ва універсітэце. На філалагічным факультэце БДУ доўгі час дзейнічала літаратурнае аб'яднанне "Узлёт", сябрам якога з'яўляўся В. Стрыжак. Нельга сказаць, што таварыства аказала значны ўплыў на паэта. У. Марук успамінаў, што Віктар рэдка наведваў пасяджэнні "Узлёту" і наогул у сваёй творчасці быў незалежны.

Першую паэтычную вядомасць В. Стрыжаку прынеслі вершы пра каханне, надрукаваныя ў насценнай газеце "Слова філолага". Гэтыя вельмі дакладныя і шчыра-смелыя вершы былі з захапленнем сустрэты аднакурснікамі.

Першая, так бы мовіць, "сур'ёзная", "салідная" публікацыя В. Стрыжака з'явілася ў 1977 годзе: у калектыўным зборніку "Вёсны" былі змешчаны творы сяброў літаб'яднання "Узлёт" В. Стрыжака, В. Русілкі, А. Пісьмянкова, У. Марука ды іншых.

Сярод літаратараў, якія паўплывалі на творчасць і светапогляд В. Стрыжака, можна назваць Рыгора Семашкевіча, якому прысвечаны адзін з найбольш цікавых твораў паэта "Нехта кінуў папрок невідушча...", і Рыгора Барадуліна, якога В. Стрыжак называў сваім хросным бацькам. Р. Барадулін быў літаратурным настаўнікам і добрым сябрам маладога паэта, можна знайсці ў В. Стрыжака і перыфразы барадулінскіх вобразаў, і вершы, адрасаваныя "хроснаму бацьку". У. Марук казаў пра тое, што В. Стрыжак быў майстрам рыфмы, як і Барадулін, аднак "не дасягнуў Барадуліна". Сябра паэта меркаваў, што ў правінцыі В. Стрыжак не меў такіх магчымасцей развіць свой талент, якія былі б у яго, застанься ён на сталае жыхарства ў сталіцы. Аднак з гэтым меркаваннем можна не пагадзіцца. Падаецца, што за час працы ў раённай газеце В. Стрыжак не толькі не занядбаў свой паэтычны дар, але і развіў журналісцкія здольнасці.

Бясспрэчным кумірам В. Стрыжака быў таксама Сяргей Ясенін. Пра захапленне В. Стрыжака рускім класікам цікава пісаў А. Пісьмянкоў: "Пасля пераезду з Веткі ў Мінск ён разам з жонкай Валяй завітаў да мяне ў Дом літаратара. На пытанне, на якой вуліцы яны жывуць, ён адказаў таксама пытаннем:

— А як ты думаеш, дзе можа жыць Стрыжак?

— Як кажа Анатоль Кудравец, Мінск, вабшчэткі, вялікі горад.

І, не дачакаўшыся майго адказу, з уласцівай яму катэгарычнасцю выдаў:

— Ну вядома ж, на Ясеніна!

— А хіба ёсць такая вуліца? — здзівіўся я.

— А ты нават і не чуў? — са шкадаваннем паглядзеў на мяне Стрыжак і горда расправіў сваю магутную грудзіну. — Спецыяльна да майго прыезду назвалі. А інакш мы б і не прыязджалі. <...>

Сяргея Ясеніна ён любіў да самазабыцця".

Выслоўе "дух бадзяжны" ў вершы В. Стрыжака "У дарог спрадвеку тайны..." з'яўляецца прамой цытатай з С. Ясеніна:

У Радзімы — ветрам рукі.
Мне ісці не цяжка:
Я яе вясёлай руні
Дух бадзяжны... .

Якраз гэтым неспакойным духам і быў блізкі Ясенін В. Стрыжаку, які таксама меў энергічны, гарачы характар. Герой паэзіі В. Стрыжака — чалавек дзейсны. Такім жа актыўным быў і сам паэт. За сваё жыццё В. Стрыжак неаднойчы мяняў працоўныя месцы. Адным з іх была качагарка Дома творчасці "Каралішчавічы": "Так бы мовіць, паддаваў жару ў раскіданыя па лесе астылыя пісьменніцкія катушкі. Гэта было ў яго неўтаймоўным характары — разварушваць і саграваць іншых, выстуджваючы сваю душу", — пісаў пра гэты перыяд М. Скобла.

Адсылкі да творчасці рускага класіка сустракаюцца ў беларускага паэта неаднойчы. Акрамя таго, нечаканыя, яркія і неардынарныя метафары, якія з'яўляюцца характэрнай асаблівасцю паэзіі В. Стрыжака, былі ўласцівыя імажынізму — напрамку, у кантэксце якога некаторыя даследчыкі разглядаюць і творчасць С. Ясеніна. Працытуем тут толькі адзін верш, прысвечаны Ясеніну, які ў пэўнай ступені з'яўляецца праекцыяй на лёс самога В. Стрыжака:

Калі правы свае "качала"
Пасрэднасць і замоднасць,
Крычала
кнігаўка адчаю
Твайго самотна.
Душа спагады не прасіла.
Хоць і было астрожна
У час,
калі Расія, —
Сама на раздарожжы...
Перад зямлёй
згінаўся ў пояс,
Бяроз расійскіх
славіў сум.
І нёс жыццё сваё,
як споведзь,
На нейкі больш
вышэйшы суд...
І не данёс.
Канец дарозе.
Жыццё павісла на мяжы
Паміж паэзіяй і прозай...
І засталося вечна жыць.

Жыццё В. Стрыжака абарвалася раптоўна, ён памёр на лесвічнай пляцоўцы ў Мінску, у выдавецтве "Мастацкая літаратура" 11 красавіка 1995 года. Пры жыцці паэта выйшла толькі адна яго кніга "Рэха журбы", але і гэты адзіны зборнік, куды ўвайшлі ранні — легендарныя — вершы В. Стрыжака, дазваляе казаць пра яго як пра адметнага, таленавітага і вартага ўвагі паэта.

Алена КАРП

# «…Да сэрцаў ісці напрасткі»

**Чалавек нараджаецца дзеля таго, каб дарыць іншым людзям святло, пакінуць значны след на зямлі вынікам сваёй працы, талентам, памкненнямі. Бог даруе жыццё толькі аднойчы, і, каб застацца ў памяці людской яскравым імгненнем, трэба накіроўваць свае думкі і намаганні служэнню высакароднай справе. Такое жыццёвае крэда заўсёды было спадарожнікам у лёсе і творчасці вядомага віцебскага паэта, перакладчыка, педагога Анатоля Мікалаевіча Канапелькі.**

16 лістапада 1939 года ў мястэчку Расоны Расонскага раёна Віцебскай вобласці ў — сям'і юрыста і супрацоўніцы дзіцячага садка нарадзіўся хлопчык Анатоль. Шчаслівая пара дзяцінства, напоўненая марамі і летуценнямі, вясёлымі гульнямі і чароўнымі казкамі, амаль абмінула Толіка. Вайна ўнесла свае карэктывы ў жыццё.

З першых дзён Вялікай Айчыннай бацька Мікалай Кліменцьевіч і маці Галіна Сямёнаўна знаходзіліся ў партызанскім атрадзе "Радзіма" брыгады "Разгром", які дзейнічаў на тэрыторыі Мінскай вобласці. Фашысцкая навала пакінула свой адбітак у душы хлопчыка, назаўсёды замацаваўшыся ў яго памяці.

Пасля вайны сям'я жыла ў горадзе Чэрвені, што на Міншчыне, прайшлі жыццёвыя шляхі і праз мястэчкі Поразава, Сапацкіно, Воранава Гродзенскай вобласці, дзе бацька працаваў адпаведна сакратарам райкама партыі, суддзёй, адвакатам. Пасля смерці старэйшага Канапелькі, сям'я перабралася ў родныя мясціны, у горад Полацк, дзе Анатоль скончыў сярэднюю школу № 7.

Юнак моцна захапляўся творамі рускіх і беларускіх паэтаў — Аляксандра Пушкіна, Янкі Купалы, Міхаіла Лермантава, Якуба Коласа, шмат увагі ўдзяляў гуманітарным дысцыплінам. Таму невыпадкова ў 1956 годзе стаў студэнтам філалагічнага факультэта Полацкага педагагічнага інстытута імя Ф. Скарыны і, абраўшы адзіны шлях у жыцці, быў верны яму да канца. Па ўспамінах сябра маладосці, кандыдата філалагічных навук, дацэнта кафедры беларускай літаратуры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя П. М. Машэрава Анатоля Емяльянава, Канапелька "...быў па-сапраўднаму светлым чалавекам з незвычайна цёплымі вачыма, акуратным, падцягнутым. Усе пяць год вучобы ў інстытуце ён быў выдатнікам".

У 1959 годзе ў сувязі з закрыццём полацкай альма-матэр, Анатоль Мікалаевіч перавёўся ў Магілёўскі педагагічны інстытут, які скончыў у 1961 годзе з адзнакай, і ўсё сваё жыццё прысвяціў літаратурнай і педагагічнай дзейнасці. Менавіта ў шчаслівую студэнцкую пару Анатоль сустрэў сваё каханне — тую адзіную дзяўчыну Святланку, з якой пражыў душа ў душу 41 год 5 месяцаў і 14 дзён... Яны ішлі побач увесь час, заўсёды і ўсюды былі разам, падтрымлівалі адзін аднаго. Аднакурсніца Святлана Федаровіч стала Музай усёй яго паэзіі.

Паэтычны талент Анатоля Канапелькі раскрыўся яшчэ падчас навучання ў школе. Так, у 1955 годзе ў полацкай газеце "Сцяг камунізму" з'явіўся першы твор маладога аўтара. Затым былі публікацыі ў газетах "Віцебскі рабочы", "Літаратура і мастацтва", "Звязда", "Чырвоная змена", "Настаўніцкая газета", часопісах "Бярозка", "Маладосць", "Беларусь" і іншых выданнях. У 1958-м — у альманаху "Дзвіна" былі надрукаваны яго вершы "Якубу Коласу" і "Ружа". Акрамя таго, пісьменнік — адзін з аўтараў калектыўных зборнікаў "Калинові мости" (1969), "Беларускі каляндар" (1970), "Каласы роднай мовы" (1990), "Матчына слова" (1991), "Анталогія беларускай паэзіі, т. 3" (1993), "Сэрцам роднага слова краніся" (1998), "Свой пачэсны пасад" (1999).

У 1966 годзе Анатоль Канапелька аб'ядноўвае свае вершы ў першы зборнік лірыкі з мілагучнай назвай "Зямная сімфонія". З выхадам у свет гэтай кнігі стала зразумела: на паэтычным небасхіле заззяла новая зорка. Тэматыка зборніка разнастайная. У творах гучыць захапленне прыгажосцю родных краявідаў, непадробная любоў да Бацькаўшчыны. Паэт закранае і тэму вайны, якая сталася незагойнай ранай у яго сэрцы. Многія радкі маюць філасофскі падтэкст: Канапелька разважае пра сэнс чалавечага існавання, пра каханне, сяброўства. "Сусвет паэзіі Анатоля Канапелькі немалы і заўсёды адкрыты чалавеку... Ён проста моцна і мудра любіў і шкадаваў людзей, настойліва сцвярджаючы, што ёсць у свеце дабро і радасць, толькі трэба ўзвысіцца душою да таго, каб бачыць іх у самых звычайных праявах: у лясным пошуме і першых промнях сонца, у радасных кроплях дажджу і ласкавых каханых вачах. Ад яго паэзіі сапраўды святлее на сэрцы і, здаецца, нават у вачах", — заўважыла літаратуразнаўца Вольга Русілка.




У 1979 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" ўбачыў свет другі паэтычны зборнік Анатоля Мікалаевіча "Сустрэчы". Вершаваныя радкі гэтай кнігі — гэта роздум аб сутнасці паэзіі, думкі аб прызначэнні чалавека на зямлі, пра тое, што робіць чалавека Чалавекам. Уся лірыка пісьменніка прасякнута пачуццём кахання да адзінай у жыцці жанчыны, замілаваннем хараством Беларусі. Аўтар уражаны прыгажосцю розных куткоў зямлі — Смаленшчыны, Літвы, узгадвае старонкі гісторыі гэтых мясцін. І, у той жа час, з самымі цёплымі пачуццямі ўспамінае родны край: "Я размаўляю з Балтыкай, пра Беларусь расказваю..."

Трэці зборнік "Музыка лістапада" выйшаў з-пад пяра паэта ў 1999 годзе. У яго ўвайшлі лепшыя з ранніх і новыя творы пісьменніка. Многія з іх напоўнены святлом і шчырай узнёсласцю, у іх больш лірызму, напеўнасці, цёплага, пяшчотнага адцення.

Перакладчыцкая і публіцыстычная дзейнасць Анатоля Канапелькі — асобная старонка яго творчай спадчыны. Анатоль Мікалаевіч быў вельмі адукаваным чалавекам, валодаў шырокім кругаглядам. Ён добра ведаў сусветную літаратуру, цудоўна арыентаваўся ў культуры іншых народаў. Ён пераклаў на беларускую мову вершы рускіх паэтаў М. Рыленкава, А. Мішына, Ю. Пашкова, У. Прастакова, Н. Звеавай. Анатоль Канапелька надаў беларускае гучанне баладам і вершам польскіх майстроў паэтычнага слова — Яна Баршчэўскага і Тадэвуша Лады-Заблоцкага. Самай значнай працай стаў пераклад цыкла вершаў Баршчэўскага "Лісты да Юліі" — своеасаблівага гімна сапраўднаму каханню. Кніга выйшла ў 2004 годзе, на жаль, ужо пасля смерці Канапелькі.

Анатоль Мікалаевіч цесна супрацоўнічаў з калектывам Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Я. Коласа. Вынікам творчага тандэма стаў цудоўны пераклад вершаў А. С. Пушкіна для спектакля "Руслан і Людміла". Арыгінальным з'яўляецца таксама зроблены ім пераклад п'есы А. Астроўскага "Праўда добра, а шчасце — лепш".

Акрамя таго, Анатоль Канапелька займаўся навукова-даследчай працай па праблеме літаратурна-мастацкіх традыцый Віцебшчыны ў кантэксце славянскіх культур, меў шэраг навуковых прац, у прыватнасці, пра землякоў — П. Броўку, В. Быкава, У. Караткевіча, М. Гарэцкага, А. Куляшова....

Шматлікія чытачы абласной газеты "Народнае слова" да гэтага часу помняць змястоўныя і цікавыя матэрыялы ў рубрыцы "Анталогія беларускай паэзіі", якую вёў Анатоль Мікалаевіч. Планы былі вялікія, але, на жаль, ім не суджана было рэалізавацца. Таму ў 2003 годзе ў выдавецтве Віцебскага дзяржуніверсітэта была выдадзена кніга А. Канапелькі "Старонкі творчых біяграфій", якая ўяўляе сабой своеасаблівы вынік яго шматгадовай навукова-даследчай дзейнасці. Гэты зборнік — галерэя творчых партрэтаў паэтаў, жыццё якіх было звязана з краем блакітных азёр — ад Сярэднявечча да сучаснасці. Кніга Канапелькі — каштоўная і неабходная праца па гісторыі і літаратуры Прыдзвіння.

Многім калегам, сябрам, проста знаёмым Анатоль Мікалаевіч запомніўся і як выдатны педагог — заўсёды пунктуальны, дысцыплінаваны, звышпатрабавальны да сябе. Адданая дзейнасць на ніве асветы пачалася ў далёкім 1961 годзе. Сем год працаваў дырэктарам Бароўскай сярэдняй школы рабочай моладзі Магілёўскага раёна. А з 1968 года на конкурснай аснове абраны выкладчыкам кафедры педагогікі і методыкі пачатковага навучання Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя С. М. Кірава. Спачатку працаваў старшым выкладчыкам вышэйназванай кафедры, потым старшым выкладчыкам на кафедры беларускай мовы і літаратуры. З 1998 года — дацэнт кафедры беларускай літаратуры і культуры ВДУ імя П. М. Машэрава.

Дабрыню і спагаду да чалавека, тонкае разуменне роднай літаратуры, якую ён выкладаў каля трыццаці гадоў, нёс Анатоль Канапелька і ў студэнцкую аўдыторыю. Рамантычная ўзнёсласць, шчырая зацікаўленасць, бязмежная любоў да мастацкага слова — толькі так і можна чытаць літаратуру. Так і чытаў яе паэт, на лекцыі якога не адно пакаленне будучых філолагаў хадзіла, як на спатканне з прыгажосцю і душою. Анатоль Мікалаевіч добра разумеў студэнтаў, паважаў іх думкі, заўсёды ішоў ім насустрач. Пра ўнутраную інтэлігентнасць, далікатнасць Настаўніка гавораць яго словы: "Я іх паважаю і ніколі не дазваляю сабе зняважыць іх годнасць. Лічу, што кожны выкладчык павінен быць, па-першае — Чалавекам, па-другое — выкладчыкам. І шчасце, калі гэтыя абедзве якасці спалучаюцца". Анатоль Канапелька выдатна ведаў свой прадмет і імкнуўся ўзрасціць першыя парасткі любові да роднага слова ў душах будучых настаўнікаў. Аратарскае майстэрства педагога прыцягвала на яго лекцыі студэнтаў з біялагічнага, матэматычнага, фізічнага факультэтаў. Ішлі "на Канапельку".

На працягу многіх гадоў Анатоль Канапелька кіраваў студэнцкім літаратурным аб'яднаннем "Заранічка" і быў загадчыкам універсітэцкага музея "Віцебшчына літаратурная". На экскурсіі, што ён праводзіў, збіралася вялікая колькасць школьнікаў, настаўнікаў, студэнтаў.

У 1998 годзе Анатоль Мікалаевіч атрымаў званне "Выдатнік адукацыі Рэспублікі Беларусь". У 2002-м — лаўрэата гарадской прэміі "Сузор'е муз", а ў 2003 годзе стаў лаўрэатам абласной літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча (пасмяротна).

Смерць А. Канапелькі была раптоўнай і нечаканай. Уся грамадскасць Віцебска была ўзрушана страшнай весткай. Нібы адчуваючы заўчасны адыход, ён спяшаўся шмат паспець — сустракаўся з чытачамі, пісаў вершы, рабіў пераклады, выкладаў ва ўніверсітэце... Яшчэ ўвечары 17 снежня прысутнічаў на ўрачыстай цырымоніі Дзён творчай інтэлігенцыі "Сузор'е муз-2002"... А 18 снежня 2002 года, на ўзлёце творчых сіл і памкненняў, ён пакінуў гэты свет. Многае яшчэ трэба было зрабіць, напісаць, аднак лёс распарадзіўся па-іншаму...

Наталля ФЕНЧАНКА

# Багушэвічавы сляды ў Мінску

**Сёлета 170-я гадавіна з дня народзінаў і 110-я — з часу сыхода нашага Празорцы Францішка Багушэвіча ў лепшы свет. З гэтай нагоды ў Кушлянах было зладжана рэспубліканскае свята паэзіі "Не сціхне дудка, не згасне слова". А як жа ўшанавана яго імя ў нашай сталіцы?**

Як гэта ні дзіўна, але аж да 2000 года ў беларускай сталіцы не было ніякай памяткі, ніякага візуальнага напаміну пра Францішка Багушэвіча. Гэтак і хацелася ўсклікнуць багушэвічавымі словамі: "Чым то дзеіцца на свеце, што не роўна дзеле Бог?" Такую несправядлівасць адчувалі нашы творцы, чуйныя да Багушэвічавай спадчыны, да яго ўнёску ў нацыянальную свядомасць беларусаў і нават, калі хочаце, у станаўленне беларускай дзяржаўнасці. Прыгадваецца адна мемарыяльная рада ў колішнім Доме літаратара. Ладзіла яе Таварыства аховы помнікаў. Дык на гэтай радзе я не вытрымаў і нагадаў, што да гэтай пары ў беларускай сталіцы ніяк не ўганаравана імя аўтара "Дудкі беларускай" з яго эмацыйна-маніфестычнай Прадмовай, які акрэсліў у ёй амаль усе асаблівасці тутэйшага ладу. Ён жа паказаў і дзе яна, Беларусь: "А яна, ад Вільны да Мазыра, ад Вітэбску за малым не да Чарнігава, гдзе Гродна, Міньск, Магілёў, Вільня…"

Першы, памятаю, на маю рэпліку адгукнуўся Іван Чыгрынаў. Ён тады быў старшынёй праўлення Беларускага фонду культуры. Ён сказаў: "Гэта ўсё так… Але ў нас, гэта значыць, беларускае чынавенства пры ўладзе, за практыку называюць імёнамі вуліцы найперш тых пісьменнікаў, якія тытулаваныя ўладаю народнымі". Можаце ўявіць, які гул абурэння прайшоўся на той нарадзе. Здаецца, Максім Танк сказаў: "Дык хто, Іване, больш народны, як не Багушэвіч?!" І Чыгрынаў адчуў, што трохі перабраў, выказаў афіцыйную версію. Яшчэ доўга пасля гэтай гутаркі ў беларускай сталіцы не было ніякай памяткі пра Ф. Багушэвіча. Але ішоў час. Адзін за адным наплывалі Багушэвічавы юбілеі — 160, затым 165-я гадавіна. Яны супалі са сцвярджэннем беларускай дзяржаўнасці, з прызнаннем нашай незалежнасці, і ў беларускай сталіцы плошчу ля Тэатра музычнай камедыі пастановай Саветаў міністраў нараклі плошчай імя Ф. Багушэвіча. Неўзабаве, у 2005 годзе, у Мінску завяршаецца будаўніцтва новай Нацыянальнай бібліятэкі і на яе фасадах разам з іншымі крылатымі афарызмамі розных дзеячаў і народаў з'яўляюцца выціснутыя пазалотай папераджальныя Багушэвічавы словы: "Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!"

Імем аўтара "Дудкі беларускай" у 2000 годзе была названа і 14-я мінская гарадская бібліятэка. Гэтак спакваля Францішак Багушэвіч пачаў абжываць сталіцу. Але ягоныя мінскія сляды ідуць з 1888 года. Якраз тады ён са службовым адвакацкім клопатам наведаў Мінск. Спыніўся ў свайго калегі Вяржбіцкага ў доме па вуліцы Юр'еўскай. Згаданая вуліца ішла паралельна Захар'еўскай, праз цяперашнюю Кастрычніцкую плошчу. З часу Багушэвічава прыезду ў Мінск ацалеў толькі губернатарскі сад, цяперашні паркавы куток з тэатрам Янкі Купалы. На старых дрэвах згаданага парку дзесь адбіўся і Багушэвічаў пагляд. Між іншым, якраз у 1888 годзе, падчас Багушэвічава наведвання Мінска, закладваўся падмурак слыннага гарадскога тэатра. Непадалёк ад Юраўскай вуліцы быў і мінскі акруговы суд. Будынак гэты ацалеў. Ён на плошчы Волі і знаёмы мінчанам пераважна як Дом прафсаюзаў. Так што і невялікі паркавы кут на колішняй Саборнай плошчы памятае аўтара "Дудкі беларускай". Больш таго, і сямейныя Багушэвічавы повязі ідуць з Мінска. Дакладна вядома, што ягоная нарачоная Габрыэля, з якой ён узяў шлюб 15-га верасня 1874 года, паходзіць з Мінска. Так што згадкі пра Мінск у Багушэвічавай сям'і натуральна паўставалі неаднойчы. І зусім заканамерна, што ў Мінску, пачынаючы з 2000 года, з'яўляецца і плошча, і бібліятэка імя Багушэвіча. Перакананы, міне трохі часу і на згаданай плошчы, пакуль што маўклівай і ніяк не пазначанай, паўстане і велічна-задумлівая постаць нашага Прарока. Між іншым, Ф. Багушэвіч у сваёй славутай маніфестычнай Прадмове да "Дудкі беларускай" згадаў сярод беларускіх гарадоў і Мінск.

Уладзімір СОДАЛЬ

Саюз пісьменнікаў Беларусі і Мінскае гарадское аддзяленне СПБ выказваюць глыбокія спачуванні пісьменніцы Іне Санінай з выпадку напаткаўшага яе вялікага гора — смерці МУЖА.

# Майстра жыццёвых сюжэтаў



**Гарады, як і людзі, маюць сваё адметнае аблічча. Асаблівы каларыт, непаўторныя рысы старажытнаму гораду на Прыпяці — Мазыру — надае не толькі унікальны прыгожы ландшафт, але і рукатворная прыгажосць, створаная яго жыхарамі. Мне пашанцавала пабываць у тутэйшым музеі-майстэрні Мікалая Пушкара, створаным крыху больш як год таму. Яго наведалі ўжо шматлікія мазыране і госці горада, у тым ліку з Германіі, Бельгіі; студэнты вышэйшых навучальных устаноў і школьнікі.**








У прыгожым аднапавярховым будынку — дзве залы з экспазіцыяй твораў мастака-кераміста М. Пушкара. Супрацоўнікі музея-майстэрні Людміла Курганская і Вольга Акуліч расказалі пра жыццёвы і творчы шлях Мікалая Мікітавіча, пазнаёмілі з яго унікальнымі работамі.

Нарадзіўся Мікалай Пушкар у Расіі, на Белгарадчыне, у 1919 годзе, але за 27 гадоў жыцця ў Мазыры гэты горад і наогул Беларусь сталі для яго другой радзімай. Тут расквітнела яго творчасць, ён усёй душой палюбіў наш край, наш працавіты, сумленны беларускі народ. З маленства, застаўшыся круглым сіратой, Мікалай Пушкар выхоўваўся ў дзіцячай калоніі выдатнага расійскага педагога Антона Макаранкі. Мікалай добра маляваў, і ў 1932-м годзе па хадайніцтве рускага пісьменніка Максіма Горкага быў залічаны на вучобу ў Харкаўскае мастацкае вучылішча. Вялікая Айчынная вайна заспела Мікалая Пушкара ў дзеючай Чырвонай Арміі. Танкавы полк, у якім ён служыў, у жніўні 1941-га быў поўнасцю разгромлены; паранены і кантужаны баец Мікалай Пушкар трапіў у палон і амаль 4 гады прабыў у фашысцкім канцлагеры Гамерштайн. У 1945 годзе вязень дачакаўся вызвалення, але замест волі быў асуджаны на 15 гадоў зняволення і больш як 9 гадоў правёў у сталінскіх лагерах. Цалкам рэабілітаваны Мікалай Мікітавіч быў толькі ў 1962-м годзе. Працаваў ён у Карагандзе, у Калінінградзе, а ў 1966-м пераехаў на сталае жыццё ў Мазыр.

Цяжкія гады зняволення не зламалі яго дух. Тут, на нашай зямлі, Мікалай Пушкар раскрыўся як выдатны майстар-кераміст, мастак, педагог. Наведваючы вёскі палескага краю, знаёмячыся з жыхарамі, іх побытам, фальклорам, М. Пушкар на аснове сваіх уражанняў стварыў галерэю вобразаў безжурботных, стойкіх перад цяжкасцямі, мясцовых жыхароў-палешукоў. Усе яго работы вызначаюцца лірычнасцю, веданнем народных звычаяў, часта гумарыстычнай трактоўкай сюжэтаў і персанажаў. Каларытныя дзяды і бабы, з хітраватай усмешкай Несцерка… Кожная керамічная кампазіцыя таленавітага майстра, як сюжэтнае апавяданне, дапоўненае трапнай назвай: “Сон палешука”, “Браты-беларусы”, “Паляшук-пясняр”, “Палеская прыгажуня”, “Несцерка”, “Мы з табою, як рыба з вадою”… Вельмі ўражвае яго работа “Халодныя камяні Чарнобыля”: на чорным ад гора твары палескай жанчыны, і ў яе вачах быццам адлюстраваўся ўвесь боль шматпакутнага беларускага народа, які перажыў і шматлікія войны, і чарнобыльскую навалу. Прыцягвае ўвагу аўтапартрэт мастака. Свае выдатныя работы ён стварыў менавіта ў гэтым будынку, дзе сёння — музей, а некалі была майстэрня.

Талент яго не застаўся па-за ўвагай: у 1966-м Мікалай Пушкар быў прыняты ў Саюз мастакоў БССР. Званне заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі Мікалаю Пушкару было нададзена ў 1990-м годзе. Яго шматлікія работы дэманстраваліся ў Канадзе, Японіі, Польшчы, колішняй Чэхаславакіі, Венгрыі, Балгарыі, былой ГДР, на выстаўках у Беларусі, у многіх гарадах Савецкага Саюза. Мікалай Мікітавіч удзельнічаў як скульптар у стварэнні ў Мазыры мемарыяльнага архітэктурна-скульптурнага комплексу “Курган Славы”. На грамадскіх асновах ён стварыў на Мазырскай фабрыцы мастацкіх выраба цэх керамікі, дзе вучыў людзей майстэрству лепкі з гліны. Шмат іншых добрых спраў на яго рахунку, і ў мазыран зберaглася светлая памяць пра гэтага цудоўнага чалавека. Творы Мікалая Пушкара знаходзяцца таксама ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, у сталічным Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва.

Справу майстра, які пакінуў гэты свет у 1993 годзе, працягвае яго таленавіты вучань, ганараваны званнем “народны майстар”, — Міхаіл Васкоўскі, які не толькі працягнуў пушкарскія традыцыі, але і развіў, прымнožыў іх.

Пазнаёміўшыся з работамі мастака-кераміста Мікалая Пушкара, яшчэ раз пераконваешся, што жыццё, як і прырода, — шматграннае, разнастайнае, неабдымнае… Трэба толькі спыніцца і прыгледзецца, каб у звыклым, непрыкметным знайсці дзівосныя і яркія моманты. Іх знаходзіў і ўвасабляў у сваёй творчасці Майстар Мікалай Пушкар.

Лявон ЦЕЛЕШ

На здымках: аўтапартрэт і керамічныя творы Мікалая Пушкара; будынак музея-майстэрні.

## У наступным нумары

Рубрыка “Прастора ўяўлення” працягвае знаёміць чытачоў з выбітнымі мастакамі, разнастайнымі па тэматыцы і аўтарстве мастацкімі выстаўкамі. Як адну з асноўных тэм, у наступную пятніцу прапануем вашай ўвазе інтэрв'ю з першым намеснікам старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгорам Сітніцам. Рыгор Сямёнавіч не толькі знаны мастак-графік, але паўстае яшчэ ў дзвюх творчых іпастасях — паэта і педагога. Праз свае згадкі з дзяцінства і юнацтва ён распавядзе пра шлях у творчасць, саму творчасць, а таксама пра людзей, якія сталі знакавымі ў ягоным жыцці.

З глыбінкі

## Назвы ад А.

Гладыёлусы здзіўляюць не толькі разнастайнасцю формы, колеру, але і паэтычнасцю і нязвыкласцю сваіх назваў. На Брэстчыне пражывае вядомы кветкавод Іван Тадорскі. У яго калекцыі — каля 600 гатункаў гладыёлусаў, многія з якіх не раз былі прадстаўлены на выстаўках у Маскве. Кветкавод, былы дырэктар школы, расказвае:

— Спецыялісты добра ведаюць, як цярпліва трэба папрацаваць, каб вывесці новы гатунак. Калі ўжо кветка атрымалася з нейкімі арыгінальнымі дэкаратыўнымі якасцямі, абавязкова ўзнікае пытанне: “А як жа яе назваць?”.

У пачатку 1990-х пачалося маё супрацоўніцтва з селекцыянерам са Століншчыны Дзмітрыем Пачко. Першы гібрыд назвалі “Ночка купальская”. З таго часу ў каталогах многіх айчынных гладыёлусаводаў сталі з'яўляцца гатункі з цудоўнымі і ёмістымі беларускімі назвамі: залаціста-жоўты “Маладзік”, крэмавая “Альпійская балада”, цёмна-малінавае “Віншаванне”, цёмна-жоўты “Верасовы мёд”...

Аднойчы на маю “плантацыю” гладыёласаў завітала з Мінска паэтэса Аксана Спрынчан, якая мае лунінецкія карані. Убачыўшы новы гібрыд, які ўжо квітнеў, яна запытала, як завецца кветка. Даведаўшыся, што кветка мае пакуль толькі лічбавы ўмоўны шыфр, яна імгненна прапанавала: “Знічка”. Якая прыгожая беларуская назва! З таго часу майстар паэтычнага слова стала актыўна дапамагаць у пошуках новых назваў для гібрыдаў майго сябра. Вось некаторыя назвы “ад А.” (перафразаванне — ад назвы яе дэбютнага паэтычнага зборніка “Вершы ад А.”): “Адлюстраванне нябёсаў” — блакітны з фіялетавай плямай, “Слуцкі пояс” — трохколерны, “Дудар” — бэзавы, “Адгарэлае лета” — аранжавы, “Арэлі дзяцінства” — белы, “Жывінка”— жоўты з чырвонаю плямай і інш. Дарэчы, беларусы цэсна супрацоўнічаюць з селекцыянерамі Падмаскоўя. Як вынік — вельмі добрыя гібрыды, якія не ўступаюць па дэкаратыўных якасцях многім замежным гатункам, а часам і пераўзыходзяць іх. Ізноў жа — назвы іхнія, як правіла, з беларускім каларытам: ружовы — “Еўфрасіння Полацкая”, белы — “Белая Русь”, зялёныя — “Гуканне вясны” і “Міхаіл Агінскі”, чырвона-чорны — “Васіль Быкаў” і “Леў Сапега”…

Таццяна КАНАПАЦКАЯ
Лунінецкі раён

ЛіМ

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь
ГА “Саюз пісьменнікаў Беларусі”
РВУ “Літаратура і Мастацтва”

ГАЛОЎНЫ РЭДАКТАР
Алесь КАРЛЮКЕВІЧ

Рэдакцыйная калегія:
Анатоль Акушэвіч
Лілія Ананіч
Алесь Бадак
Дзяніс Барсукоў
Святлана Берасцень
Віктар Гардзей
Уладзімір Гніламёдаў
Вольга Дадзіёмава
Уладзімір Дуктаў
Анатоль Казлоў
Алесь Карлюкевіч
Анатоль Крэйдзіч
Віктар Кураш
Алесь Марціновіч
Мікола Станкевіч (намеснік галоўнага рэдактара)
Юрый Цвяткоў
Мікалай Чаргінец
Іван Чарота
Іван Штэйнер



Адрас рэдакцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-82-04, 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце: www.lim.by
Пры перадруку просьба спасылацца на “ЛіМ”.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.
Аўтары допісаў у рэдакцыю паведамляюць сваё прозвішча, поўнасцю імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, асноўнае месца працы, зваротны адрас.
Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.
Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра РВУ “Літаратура і Мастацтва”.
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова “Літаратура і Мастацтва”.
Друкарня Рэспубліканская унітарнага прадпрыемства “Выдавецтва “Беларускі Дом друку”
ЛП № 02330/0494179 ад 03.04.2009.
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Наклад 2904
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 29.07.2010 у 11.00
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7
Заказ — 3663
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-6808